
Матурысты 2013→3

# Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Лінія Молатава→9

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (2977) Год LVIII | Беласток, 2 чэрвеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# „Гайнаўка-2013” – свята прыгажосці і асалоды

Кастусь БАНДАРУК

**У нядзелю 26 траўня у Беластоцкай оперы і філармоніі ўрачыстым гала-канцэртам завяршыўся XXXII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2013”. Агулам у сёлетнім фестывалі прынялі ўдзел 22 аматарскія і прафесійныя хары з Польшчы, Беларусі, Балгарыі, Эстоніі, Малдовы, Расеі і Украіны. Журы ва ўзбагачаным складзе прызначыла ўзнагароды ў пяці катэгорыях хароў: парафіяльных, аматарскіх свецкіх, з музычных школ, дзіцяча-моладзевых і прафесійных.**


http://www.festiwal-hajnowka.pl

Арганізатары і кампазітары пасля канцэрта прысвечанага Кшыштафу Пэндэрэцкаму разам з ім на памятным здымку

Мабыць, для нікога не было неспадзяваным, што ў катэгорыі прафесійных хароў першае месца заняў Акадэмічны камерны хор Дзяржаўнай філармоніі з Кастрамы (Расея). Сярод парафіяльных хароў журы найвышэй ацаніла таксама два расейскія хары: Сабора святога Андрэя Першапакліканага ў Калінінградзе і гурт салістаў з Растова „Rostov-Don Art Music”. Што тычыцца калінградскага хору, то ўжо падчас выступлення я адразу зразумеў, што гэтыя 8 мужчын у сутанах напэўна знойдуць прызнанне ў сяброў журы і не памыліўся. З ліку аматарскіх свецкіх хароў найбольш спадабаўся хор Ваяводскай камендатуры Паліцыі ў Беластоку. З размовы з адной з харыстак Ірэнай Юргілевіч я даведаўся, што гэта ніяк не навічкі, бо хор існуе і выступае ўжо 10 гадоў, толькі я пра гэта не ведаў.

Традыцыйна высокі ўзровень прадставілі навучэнцы музычных школ. Таму і не дзіва, што ў групе хароў з музычных школ найвышэй быў ацэнены акадэмічны хор „Сонячны Струм” з Нікалаева ва Украіне. Затое ў катэгорыі дзіцяча-моладзевых хароў дзве раўнапраўныя першыя ўзнагароды атрымалі ўкраінскія хары. Гэта дзіцячая Народная харавая капэла „Зорінка” з Цярнопаля і хор хлапцоў Нацыянальнай музычнай акадэміі Украіны імя Пятра Чайкоўскага з Кіева. У паасобных катэгорыях былі таксама прызначаны другія і трэція ўзнагароды, а таксама былі ўшанаваны найлепшыя дырыжоры.

Паводле журы, у якім ужо традыцыйна засядалі заканіты кампазітар праф. Рамуальд Твардоўскі, выдатны дырыжор а. Юры Шурбак, украінская кампазітарка Лэся Дычко, але таксама новыя знаўцы царкоўнай музыкі — Запра Запраў з Македоніі і Анатоль Кісялёў з Расеі ды іншыя, мастацкі ўзровень сёлетняга фестывалю быў вельмі высокі. Праўда, сёлета не было хароў з Каўказа, якія заўсёды ўражваюць не толькі сваёй музыкальнасцю і характэрнымі галасамі, але і сваімі нацыянальнымі ўборамі. Амаль запоўнена была і зала філармоніі падчас усіх трох дзён конкурсных слуханняў.

## Прэстыжна проста паўдзельнічаць у фестывалі

Усе, з кім мне давялося размаўляць, у адзін голас казалі, што ўдзел у такім фестывалі гэта для іх гонар, што хочуць паказаць сябе з як найлепшага боку, але і паслухаць іншых, павучыцца, узбагаціцца новым досведам. Кожны з хароў ужо недзе выступаў, у кожнага былі пэўныя дасягненні, прызы, узнагароды, бо і конкурсаў і фестываляў праводзіцца шмат. Аднак прызы і ўзнагароды гэта адно. Вартым прыезду ў Беласток усе лічылі сам удзел якраз у гэтым прэстыжным фестывалі. Да таго ж, казалі выканаўцы, асабліва маладыя, якія тут хары, якія прозвішчы, якая атмасфера і якая знакамітая арганізацыя. Вядома ж, гэта заслуга Міколы Бушкі, не проста вялікага знаўцы музыкі, але і знакамітага менеджара. Як ён спраўляецца з усім, як усё ахоплівае, як перфектыўна праводзіць такое маштабнае мерапрыемства нават маючы памочнікаў і ўмеючы яшчэ быць і знакамітым канферансье, я проста дзіву даюся.

Якое ў мяне персанальна асноўнае ўражанне ад фестывалю? Захапленне яго высокім, з году ў год вышэйшым мастацкім узроўнем, разнастайнасцю катэгорый і стыляў. Ва ўмовах спаборніцтва выдатна павысіўся мастацкі ўзровень хароў. Яны да фестывалю доўга рыхтуюцца. Яшчэ за лічаныя хвіліны да выхаду на сцэну праводзяць рэпетыцыі. Выступалі і аматарскія і паўпрафесійныя, і прафесійныя, і парафіяльныя, і школьныя, і дзіцячыя, і моладзевыя, і акадэмічныя хары. Зразумела, прыкметная не толькі розніца ў мастацкім узроўні, але і ў падборы рэпертуару і вакальнай манеры. Хары, якія пераважна спяваюць падчас багаслужбаў, выступаюць спакойна, лірычна, пазбягаючы эфектнасці ў выглядзе рэзкіх перападаў ад „піяна” да „фортэ”. Гэта асабліва адчувальнае ў героя сёлетняга фестывалю, юбіляра Кшыштафа Пэндэрэцкага, у яго кампазіцыі „Із глубіны возвах”. Гэта прыкметнае ў выкананні акадэмічных хароў з Нікалаева і Чарнігава ва Украіне, ці хору Дзяржаўнай філармоніі з Кастрамы ў Расеі.

Са Святога Пісання вынікае, што спеў і музыка спадарожнічалі веры і рэлігіінасці ад найдаўнейшых часоў. Іудзеі спявалі часта і пры самых розных нагодах: падчас працы на зямлі (Іс. 9.2), у час ваенных паходаў (Вых. 15,1-18), пры нагодзе святаў і сямейных урачыстасцей (Іоў. 21,12), пры заручынах, падчас пахаванняў. Аб тым, што ізраільцяне былі музыкальныя, сведчаць псалмы. У Святым Пісанні згадваецца і пра музычныя інструменты: бубны, цымбалы, флейты. Хрыстос і апосталы ведалі гучанне музычных інструментаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што не былі супраць. Калі аднак маладая Царква адмовілася ад музычных інструментаў, то хутчэй за ўсё з тае прычыны, каб мацней адрознівацца ад паганства. Вось таму ў II стагоддзі Клімент Александрыйскі пісаў, што „мы дзеля ўсхвалення Бога ў якасці інструмента карыстаемся выключна голасам”. Аднак і ён дапускаў музычны акампанемент падчас нелітургічных спеваў.

## Міжнароднасць і міжканфесійнасць

Я меў магчымасць і прыемнасць удзельнічаць у большасці канцэртаў, размаўляць з сябрамі журы, з дырыжорамі і выканаўцамі. Размаўляючы з харыстамі і дырыжорамі польскіх хароў, я пытаўся адкуль у іх зацікаўленне якраз царкоўнай музыкай, ці разумеюць яны змест выконваных твораў, іх сакральны характар. Як патлумачыла дырыжор Кафедральнага хору „Кармэн” з Беластока Бажэна Баярын-Пшыбыла, з гэтым няма праблемы. Харысты найперш знаёмяцца з польскім перакладам царкоўнаславянскіх тэкстаў. Затым вывучаюць правільнае вымаўленне арыгінальнага тэксту і праслухоўваюць даступныя выкананні гэтых твораў іншымі харамі. Гэта патрэбнае, бо ў вымаўленні тэкстаў польскіх хароў адчуваецца пэўныя недахопы. „Ці ўспрымаеце свой спеў як малітву?” — дапытваўся я. „Безумоўна. Дакладна гэтак, калі выступаем падчас каталіцкіх багаслужбаў”, — адказвалі харысты з Беластока, Варшавы, Шчэціна. Усе яны перакананыя, што царкоўная музыка ўнікальная, багатая, разнастайная і правільна, што яна ўвайшла ў рэпертуары найлепшых хароў з усяго све-

працяг ☞10





# Еўразбочанне

Як гэта ганарова, калі ты прадстаўляеш сваю краіну. Цэлую краіну, а не асобна ўзятую школу або працоўны калектыў. Не калгас і не дзяржаўную ўстанову. Не вёску, не горад, не раён і нават не вобласць. А цэлую краіну. Сваю. Родную.

А за табой стаіць твая дзяржава і твой народ. З тваімі бацькамі і дзецьмі, з роднымі, з роднымі родных, з суседзямі і з суседзямі суседзяў. З сябрамі, знаёмымі і незнаёмымі людзьмі, але кожны з якіх перажывае за цябе, верыць у цябе, ганарыцца табой...

Што можа быць важней?! Што можа быць больш ганарова?!

Кожны з нас ганарыцца сваімі. У школе кажуць вучням, што гэтая школа ганарыцца тым, што ў ёй вучыўся нейкі славуты дзеяч. У канкрэтным палку ганарацца героямі, якія значыліся ў яго шэрагах. Тое самае адбываецца і ў маленькай вёсачцы, і ў шматлюдным абласным цэнтры, і мітуслівай сталіцы.

Кожны школьнік неверагодна востра адчувае адказнасць перад сваім класам, калі прадстаўляе яго на нейкай алімпіядзе па біялогіі ці спартыўных спаборніцтвах. Ну а калі чалавек прадстаўляе цэлую краіну...

На Еўрабачанні нашу краіну прадстаўляла даволі вядомая спявачка. Яе кар'ера з большага склалася, талентам яна не абдзеленая, ды і перспектывы росту таксама мажлівыя. З удачай, зноў жа, някепска. Выпала ж менавіта ёй прадстаўляць Беларусь на Еўрабачанні, хоць і не з першага разу. Мінулым годам быў непрыемны сюжэт з фальсіфікацыяй падліку галасоў у сувязі з паездкай на ўсё тое ж Еўрабачанне. Але наш добразычлівы народ даўно на такія дробязі як фальсіфікацыя галасоў увагу не звяртае. Галоўнае, каб нейкі вынік быў.

Ну а якога ж выніку людзі чакалі. Можа спадзяваліся на першае месца? Ды не. Ніхто асабліва не чакаў такога выніку, хоць у кожнага нейкая кволая надзея ёсць. Па-сапраўднаму і пятага месца ніхто не чакаў. Выйшла ў фінал, ну то ўжо і добра. Галоўнае, каб нашу краіну прадставіла. Ды каб годна.

Але што такое годна? Што мы ўкладаем у гэтае слова? Можа дарагую ў незлічонай колькасці крышталя сукенку? Ды не, здаецца. Не гэта для беларуса ёсць годнасць. Тым больш, што ёсць краіны багацейшыя і могуць адзець сваіх выканаўцаў яшчэ з большым вычварэнствам. А можа той турэцка-лацінаамерыканскі матыўчык песні быў нашай годнасцю? Зноў не. Бо і туркі, і лацінаамерыканцы могуць гэта зрабіць як мінімум не горш, а заадно падкрэсліць гэтым веліч і самабытнасць і сваёй музычнай культуры, і сваёй краіны, і свайго народа. Дык што ж там было нашага? Што было такога, каб гледачы без аб'явы дыктара здагадаліся, што гэта была спявачка з Беларусі? Што яна прадстаўляе нашу краіну? Што яна прадстаўляе нас?

Думаю, эстонцы ганарацца сваімі выканаўцамі. Ганарацца тым, што эстонскую мову пачуў увесь свет. А п'едэстальнае месца — гэта справа нажыўная. Нездарма ж „Буранаўскім бабушкам" удмурцкая мова заняць мінулым годам высокае другое месца.

І калі хто думае, што беларусы не ганарыліся б выкананнем на роднай мове, хай хоць раз наведае правядзенне „Беларускай дыктоўкі", прыкладам, у Гародні, калі столькі людзей самі ідуць ушанаваць роднае слова, што не ўмяшчаюцца ў вялікую залу. Хай хто збярэ добраахвотнікаў напісаць дыктоўку на прапагандуемай уладамі рускай мове. Пад прымусам столькі не збярэць.

Дык ці адчувала наша прадстаўніца хоць нейкую адказнасць за сваю культуру і за свайго гледача? А можа не нас прадстаўляла беларуская дэлегацыя на Еўрабачанні? Можа выключна сябе, сваю кар'еру, свае амбіцыі? Бо штосьці не спяшалася наша славутая абранніца і раней радаваць беларускія канцэртныя залы сваімі сольнымі канцэртамі, хоць і не значыцца ў спісах непажаданых у Беларусі выканаўцаў. Можа больш на Расію арыентавалася? Ну, а тая Расія на Еўрабачанні ёй аніводнага бала не паставіла. Вось такая іронія. Для кагосьці Еўрабачанне, ну а для каго і Еўразбочанне. Але верыць будзем у лепшае.

Ёсць жа музыкі ў Беларусі, якія спяваюць па-беларуску, хаця б з таго спіса непажаданых для беларускіх арэн выканаўцаў. Можа яны калі-небудзь прадставяць нас на тым славутым Еўрабачанні. Тады і пацешымся. І за іх, і за нас, і за краіну.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Вучыць дзяцей пашаны да працы



Я вельмі добра ўспамінаю сваё дзяцінства на вёсцы. Хаця яно было нялёгкае, то шмат мяне навучыла як далей жыць у дарослым жыцці. Навучыла мяне паважаць старэйшых — бацькоў ды дзядоў. Калі пачынаецца лета, я люблю вяртацца на вёску, каб дапамагчы маім бацькам. Час непазбежна бяжыць ды на тварах і целах пакідае адбітак старасць. З году ў год я бачу маіх бацькоў штораз больш слабенькімі ды бездапаможнымі. Родная вёска, хата, прырода прыгадваюць мне праведзеныя тут дзяцінства і маладосць. Летнія ўсходы ды захады сонца асацыяваліся мне з сенакосамі і жнівам. Тут я ведаю кожнае поле, кожную расліну. Як прыеду сюды, тады жыву. Адно мне баліць, што адыходзяць людзі. У маёй вёсцы памерла многа старых, вартасных людзей. Аднак па сабе аставілі плады сваёй працы — дамы, гаспадаркі, а ў асноўным — добрыя ўспаміны. Усё гэта звязанае з маімі ўспамінамі, калі я дапамагаў бацькам пры цяжкай працы на гаспадарцы. Мой тата заўжды быў найлепшым гаспадаром. Ён прыдбаў усё сваёй цяжкай працай. Калісьці мы з татам позним жнівеньскім вечарам вярнуліся з поля і я стаў пісаць верш „Жніво". Тады з кухні пачуў я размову майго таты з бабуляй.

— Чамуж ты сынок малога так ганяеш да працы? — клапацілася за мяне бабуля Манька

— Я, мамо, яго ад малога прывучаю да цяжкай працы. Як навучыцца цяжка працаваць, то яму будзе лягчэй у будучыні. Ведаеце, мамо, з вясковага прасцей зрабіць гарадскога, але з гарадскога хлопца вясковага ніколі не зробіце.

І гэтыя бацькавыя словы мне глыбока запалі ў памяць. Так як тата за свае апошнія грошы купляў сельскагаспадарчыя машыны, то я за зробленыя сабою грошы купляў патрэбныя мне ў маім маладым жыцці прылады. Памятаю як у маёй вёсцы ўсе даўно мелі магнітафоны, бо ім пакуплялі бацькі. Урэшце купіў і я, але за свае грошы. Калі грошы прыходзілі лёгка ды малыя, то я аддаваў іх на сваю маладую распусту — кніжкі, аўдыёкасеты, кампактдыскі ці гітары. Калі з іх цяжка зарабляў, то купляў добрую вопратку. Мне ад ранняга дзяцінства найбольшай навукай заўжды былі бацькоўскія павучэнні ды цяжкая праца. Менавіта цяжкая праца на гаспадарцы навучыла мяне, што зараз мне лягчэй. Хаця я закончыў школы, нейкі час лёгка працаваў, то прыйшоў час сапраўднай навукі жыцця і зараз я цяжка працую. Я ўдзячны Богу і за гэтую працу, бо кожная праца гэта дар ад Бога. Фізічная праца кшталтуе характар чалавека, вучыць яго пашаны да другіх цяжка працуючых людзей. Мае бацькі таксама задаволеныя, што летам прыязджаю ім дапамагаць. Я навучыўся вельмі паважаць іх працу. Шаную маіх дзядуляў. Дарэчы, абодва мае дзядулі ў сваёй маладосці працавалі падобна як і я — дзед Васька адбудоўваў Беласток, дзед Валодзька — Варшаву. Я вельмі паважаю сямейную гісторыю. Запісаў я ўспаміны маёй бабулі Манькі Самасюк-Буйнюк, а зараз дакументую гісторыю майго дзеда Ваські Міранчука. Я ведаю адно, што нічога дарам не даюць. Ніякія спартлато, ніякія ўзнагароды мне хлеба не дадуць. Здзіўляе мяне як зараз для малых дзяцей ад малога ўціскаюць дарагія цацкі, камп'ютары ды ўсялякую распусту. Цікавіць мяне, якія з іх вырастуць людзі. Дарэчы, я ў сваім жыцці пазнаў такіх дзетак. Пераважна такія людзі не ўмеюць працаваць, бо бацькі іх не заставлялі да працы. Часта яны прыходзяць працаваць фізічна ды звальняюцца з працы, бо ім надта цяжка. А жыццё наогул нялёгкае і — як паўтарае мая мама — раней ці пазней усе мусяць працаваць. Цешмася, што ўвогуле маем працу. Праца — найбольшая мера вартасці чалавека.

**Юрка БУЙНЮК**

Вачыма еўрапейца

# З бяссілля дыпламатыі?



У Беластоку быў заснаваны пілатажны Рэгіянальны цэнтр міжнароднай дэбаты (RODM) — адзін з нешматлікіх на тэрыторыі Польшчы. Быў ён створаны па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў. Цэнтр мае ў асноўным дзейнічаць у якасці брокера-інфарматара паміж міністэрствам і мясцовымі няўрадавымі арганізацыямі і ўстановамі, якія нясуць адказнасць за супрацоўніцтва з краінамі-ўдзельніцамі праграмы Усходняга партнёрства, а менавіта Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай. Асабіста працу цэнтра каардынаваць будзе — выйграўшы конкурс — Славамір Майсюшка, старшыня Фонду «M.I.A.S.T.O.», калісьці быўшы ў якасці дарадцы былога віцэ-прэзідэнта Тадэвуша Арлуковіча (цяпер сенатара), які беспаспяхова змагаўся за званне культурнай сталіцы Еўропы для сталіцы Падляшша. Апеку над дзейнасцю RODM, таксама ў выніку конкурсу МЗС, трымае Падляшскі рэгіянальны фонд развіцця, які ўзначальвае прадпрымальнік Анджэй Парафінюк, і які да гэтага часу завяршыў шэраг праектаў эканамічнага характару з Усходам. Якраз Анджэй Парафінюк, а таксама і ўпаўнаважаны рэктара Універсітэта ў Беластоку па супрацоўніцтве з усходнімі партнёрамі Яраслаў Матвяюк, старшыня Фонду «Суседзі без межаў» Дарыюш Багускі, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап і віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах дэпутат Роберт Тышкевіч прынялі ўдзел у прэсканферэнцыі, якая інаўгуравала работу Цэнтра. Гэта адбылося на наступны дзень пасля сустрэчы ў Кракаве еўрасаюзных міністраў замежных спраў, якія абмеркавалі падрыхтоўку да асенняй сустрэчы ў вярхах Усходняга партнёрства ў Вільні. Маецца на ім м.інш. вырашыць, ці Украіна падпіша пагадненне аб асацыяцыі з ЕС, якое ўсё яшчэ пад знакам пытання, як, зрэшты, і ўсё далейшае функцыянаванне УП. З гэтага пункту гледжання для мяне нечаканасцю была таямнічая заява падчас прэс-канферэнцыі Анджэя Парафінюка: «Усходняе партнёрства толькі цяпер будзе мець шанц дынамічнага росту».

Затым ён дадаў: «Не толькі культура і дзейнасць няўрадавых арганізацый, але і эканамічнае супрацоўніцтва павінна быць у сферы інтарэсаў Цэнтра».

Анатоль Вап адзначыў: «Мы з Усходам — адна культурная прастора. Ад Усходу залежыць таксама і наша багацце на Падляшшы».

Яраслаў Матвяюк: «Беласток мае пэўную місію, звязаную з Усходам і ўяву шчыльнага супрацоўніцтва з універсітэтамі пагранічча, з Расіяй, Беларуссю, Украінай і Літвой. Гэтая ідэя бачання (RODM — М. Х.) з'яўляецца часткай гэтага і мы падтрымліваем яе.

Дарыюш Багускі падкрэсліў важнасць, якое ў Партнёрстве маюць менш фармальныя кантакты галоўным чынам з няўрадавымі арганізацыямі, асабліва з Беларуссю. Адразу пасля яго заявы здзівіў (прынамсі мяне) Славамір Майсюшка:

— Беларусь не з'яўляецца асноўным ключом для нашай дзейнасці. Падляшша гэта больш, чым толькі стык з Беларуссю.

Без каментара пакінуў гэта дэпутат Тышкевіч (таксама старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі):

— Мы хадайнічалі за новы інструмент для ўключэння мясцовых асяроддзяў у супрацоўніцтва з Усходам. У польскай міжнароднай палітыцы вельмі важна, каб праз УП як найбольш Еўропы было на Усходзе.

У канцы канферэнцыі Дарыюш Багускі сказаў:

— Цэнтр гэта прызнанне ў слабасці польскай дыпламатыі.

А дэпутат Тышкевіч патлумачыў:

— На Усходзе маем дачыненне з працэсам, якога шляхам дыпламатыі не дасца негацыяваць. Гэта доўгі, шматслоевы працэс. Гаворка ідзе аб садзейнянні грамадскай трансфармацыі.

Міністэрства замежных спраў у гэтым годзе на дзейнасць Цэнтра ў Беластоку вылучыла больш за 167 тысяч злотых. Інфармацыю Цэнтр пакуль перадае на фейсбуку.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Экзамен
## па беларускай мове

Бельскія і гайнаўскія белліцэісты, якія ў пачатку мая пачалі здаваць матуральныя экзамены, згодна гаварылі, што ў выпадку праверкі ведаў і ўмеласцей па беларускай мове найбольш хваляваліся ў час прэзентацый. Паводле белліцэістаў, дастаткова было трохгадовай падрыхтоўкі на ўроках і дома, каб паспяхова здаць пісьмовы матуральны экзамен па беларускай мове.





Гайнаўскія і бельскія белліцэісты

Пісьмовы матуральны экзамен па беларускай мове адбыўся 16 мая. У Бельскім белліцэі да экзамену ў падставовай формуле прыступілі 108 вучняў, а ў Гайнаўскім — 110. Адзін вучань з бельскай школы будзе здаваць матуральны экзамен у чэрвені, а 5 вучняў з белліцэя ў Бельску і 8 асоб з белліцэя ў Гайнаўцы, як пераможцы алімпіяды па беларускай мове, атрымаюць максімальную колькасць балаў, якую можна здабыць у час матуральнага экзамену ў пашыранай формуле.

Калі мае суразмоўцы з Гайнаўскага белліцэя выходзілі з пісьмовага экзамену па беларускай мове, па-рознаму выказваліся наконт ступені цяжкасці прапанаваных ім задач. Аднак лічылі, што ў цэлым паспяхова справіліся з матуральным экзаменам па беларускай мове, у час якога вучням трэба было напісаць сачыненне на тэму аднаго з двух прапанаваных да разгляду твораў — верша Янкі Купалы «Не шукай» або «Споведзі» Ларысы Геніюш. Гайнаўскія белліцэісты найчасцей адклікаліся ў сваіх працах да верша Янкі Купалы. Былі таксама вучні, якія пісалі сачыненне на аснове фрагмента «Споведзі» Ларысы Геніюш. Фрагменты «Споведзі» і верш «Не шукай» белліцэісты разглядалі на ўроках беларускай мовы і таму гэтая задача не была ім неспадзяванай. Вучням трэба было таксама адказаць на пытанні да тэксту «Таблаізацыя сродкаў масавай інфармацыі або журналістыка наадварот».

— Адклікаючыся да верша Янкі Купалы «Не шукай», я пісала пра такія вартасці, як шчасце, маці, бацькаўшчына і сяброўства, якія актуальныя і сёння. Мне лягчэй пісаць працу наконт верша, чым прозы, і таму выбрала першую тэму, — сказала гайнаўская белліцэістка Наталля Смактуновіч.

Бася Петручук дадала, што пішучы на другую тэму трэба было звярнуць увагу на сувязі загалоўка з фрагментам «Споведзі» Ларысы Геніюш. Белліцэісткі Паўліна Герасімюк, Агата Корх і Наталля Хмель лічаць, што складаней было адказваць на пытанні да публіцыстычнага тэксту «Таблаізацыя сродкаў масавай інфармацыі або журналістыка навыварат», бо трэба было дакладна ўчытвацца ў яго, каб знайсці адпаведную інфармацыю. Адам Багроўскі і Лукаш Бірыцкі тэмай сачынення выбралі твор Ларысы Геніюш і гаварылі, што мусілі таксама дакладана ўчытвацца ў фрагмент «Споведзі», каб пасля справіцца з працай. Гайнаўскія белліцэісты гаварылі, што выбіралі для прэзентацый па беларускай мове тэмы па літаратуры, але былі таксама вольныя тэмы, напрыклад, аб беларускіх мерапрыемствах. Наталля Смактуновіч падрыхтавала да вуснага выказвання матэрыял аб Мужчынскім манастыры ў Супраслі, дзе была і малілася.

— Жыву я ў Нарве і ездзіла на востраў Кудак да айца Гаўрыіла, які расказаў мне пра манастыр у Супраслі і яго гісторыю. Збірала я таксама гістарычны матэрыял пра манастыр самастойна, — сказала Наталля Смактуновіч.

Паўліна Герасімюк падрыхтавала прэзентацыю наконт сродкаў масавай інфармацыі, звяртаючы ўвагу на «Ніву» і «Рацыю», а Лукаш Грыгарук расказваў пра сімволіку на вышыўках.

— Файна было ў нашым ліцэі вучыцца, але прыйшоў час здаваць матуральныя экзамены і выбіраць далейшую адукацыю, — сказаў гайнаўскі белліцэіст Марцін Гіншт.

Лукаш Грыгарук і Габрыеля Краўчук заявілі, што асабліва цікава было на занятках беларускай мовы.

Бельскіх белліцэістаў спаткаў я, калі чакалі выступленняў з загадзя падрыхтаванымі прэзентацыямі. Іх сябры былі ўжо пасля выступленняў перад школьнымі камісіямі, а падбадзёрваць сяброў падыходзілі таксама пераможцы алімпіяды па беларускай мове.

— Я толькі фармальна запісалася на экзамен у пашыранай формуле па беларускай мове. Ведаю, што я, як фіналістка беларускай алімпіяды, здабуду на экзамене максімальную колькасць балаў. Дзякуючы алімпіядзе я стала больш чытаць па-беларуску і слухаць беларускую музыку, — заявіла Анна Селевановіч з Бельскага белліцэя.

Эвеліна Якімюк зацікавілася жыццём Еўфрасініі Полацкай і падрыхтавала прэзентацыю пра святую асветніцу. Сара Ланеўская расказала пра Францыска Скарыну і яго дзейнасць, Аляксандра Шайкоўская гаварыла пра беларускія сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку «Ніву», «Часопіс» і «Рацыю».

— Мне спадабалася купальскае свята і я рашылася расказаць пра яго ў час прэзентацыі. Крыху матэрыялаў наконт свята Купалы знайшла я і апрацавала, але і ад сябе магла таксама расказваць, бо пабывала на купальскім святкаванні і магла пра гэта распавесці. Прэзентацыя, гэта між іншым праверка нашых умеласцей, бо, выступаючы перад камісіяй, мы можам паказаць як умеем размаўляць па-беларуску, — гаварыла Кася Шурбак.

Хаця белліцэісты ведаюць, што ацэнка прэзентацый па польскай і беларускай мовах не бярэцца пад увагу падчас паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і ў іх школах заўсёды ўсе паспяхова спраўляліся з прэзентацыямі, то ўсё ж такі моцна хвалююцца ў час выступленняў перад матуральнымі камісіямі.

— Я моцна хвалявалася перад і ў час выступлення з маёй прэзентацыяй, хаця ўсё абдумала, што буду гаварыць перад камісіяй. У час усіх матуральных экзаменаў я не нервавалася так, як падчас прэзентацыі і гэта пэўна таму, што мяне мелі слухаць настаўнікі, — заявіла Кацярына Сцепанюк, аўтарка цікавай прэзентацыі на тэму наватарства ў творчасці Максіма Багдановіча.

Іншыя мае суразмоўцы з бельскай і гайнаўскай школ таксама гаварылі, што прэзэнтацыям спадарожнічалі асаблівыя эмоцыі і хваляванне.

— Гэта зразумелая справа, што калі трэба выступіць публічна, то наогул людзі хвалююцца, а прэзентацыя перад матуральнай камісіяй, у якой працуюць настаўнікі, якія не мелі заняткаў з ліцэістамі, гэта свайго роду публічнае выступленне, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко. — Спосаб здавання матуральных экзаменаў па беларускай мове ёсць такі сам, як і па польскай мове. Калі паўсюдна крытыкавалася праверка ведаў і ўмеласцей вуснага выказвання вучняў у ходзе прэзентацыі па польскай мове, калі нават можна было знайсці гатовыя прэзентацыі ў інтэрнэце і выступіць з імі, як са сваімі, то трэба было ўвесці змены. Цяперашнія вучні першых класаў звышгімназічных школ у 2015 годзе не будуць ужо выступаць з прэзентацыямі па польскай мове, толькі будуць здаваць вусны экзамен па гэтым прадмеце. Так сама будзе і з беларускай мовай.

— Мы хвалюемся ў час прэзентацый, але калі трэба будзе здаваць вусны экзамен па беларускай мове, так як і па польскай, будзе ён больш складаным і трэба будзе больш паўтараць матэрыял па беларускай мове, — гаварылі гайнаўскія вучні.

У размове бельскія і гайнаўскія белліцэісты заявілі, што сёлетнія матуральныя экзамены па іншых прадметах у падставовай формуле наогул не былі цяжкімі. Нават экзамен па матэматыцы не лічылі яны складаным, хаця слабейшым вучням мог прычыніць ён клопату, бо не ўсім ліцэістам гэты прадмет даспадобы. Затое вучні адзначалі, што практычна ўсе матуральныя экзамены ў пашыранай формуле, да якіх ліцэісты прыступаюць па сваім патрабаванні, каб магчы паступіць на прэстыжныя спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах, былі ўжо складанымі. Бельскі і Гайнаўскі белліцэі лічацца самымі прэстыжнымі ў сваіх гарадах, а лепшыя вучні з гэтых школ дабіваюцца поспехаў у час прадметных алімпіяд. Дагэтуль белліцэісты з абодвух гарадоў добра спраўляліся з матуральнымі экзаменамі. Калі адзінкі не спраўляліся па нейкім прадмеце, наогул пераздавалі матуральны экзамен восенню, а мінулагоднія выпускнікі, якія па выбраных прадметах прыступілі да матуральных экзаменаў у белліцэях у гэтым годзе, наогул робяць гэта, каб папраўіць вынік матуральнага экзамену і быць прынятымі на выбраныя імі спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах. Вучні як з бельскай, так і з гайнаўскай школ хвалілі свае ліцэі за мілую атмасферу ў іх, а настаўнікаў — за адданую працу і добрыя адносіны да вучняў. Расказвалі, што збіраюцца ісці вучыцца ў вышэйшыя ўстановы Беластока, Варшавы, Кракава і іншых гарадоў.

— Многа нашых ліцэістаў хоча паступаць у медыцынскія ўстановы, але калі вельмі добра не справяцца з экзаменам па біялогіі, не маюць шанцаў стаць лекарамі. Аднак маюць ужо больш шанцаў паступіць на стаматалагічнае аддзяленне, ці іншыя медыцынскія спецыяльнасці. Дагэтуль нашыя вучні прымаліся таксама на розныя політэхнічныя, эканамічныя, ці гуманітарныя спецыяльнасці, а ў мінулым годзе, за выключэннем дзвюх асоб, усе нашыя выпускнікі паступілі ў публічныя навучальныя ўстановы, дзе адукацыя бясплатная. Толькі гэтыя дзве асобы вучацца ў прыватных установах, а адна з іх — у прэстыжнай Акадэміі Ляўона Казмінскага ў Варшаве. Калі там даведаліся, што нашая выпускніца — лаўрэатка алімпіяды па беларускай мове, то на паўгода па гэтай прычыне была яна звольнена з платы за навучанне. Так у Польшчы дацэньваюць пераможцаў нашай беларускай алімпіяды, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Гайнаўскія белліцэісты таксама паўсюдна паступаюць у публічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы і калі зараз меншае колькасць выпускнікоў звышгімназічных школ у цэлай Польшчы, слабейшым прыватным вышэйшым установам можа пагражаць закрыццё.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Пакінулі саміх сабе?...

У студзені 2010 г. уступіў у сілу закон аб апецы над асобамі няздольнымі да самастойнага існавання і будзе абавязваць да 30 чэрвеня г.г. Затым пераменяюцца прынцыпы прызначэння платы апекунам. Дагэтуль прызначэнне платы за аказванне апекі ў карысць асобы няздольнай да самастойнага існавання (І-ая група інваліднасці) у памеры 520 зл. абумоўлівалася тым, што апякун лічыўся беспрацоўным і на ім ляжала адказнасць аказваць такую апеку. У Чаромхаўскай гміне, напрыклад, законам пакарысталася каля дзевяноста чалавек. Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі ў мінулым годзе выплаціў 705 павіннасцей на суму 366 600 зл. З пачаткам г.г. апекунам былі даручаны службовыя лісты з інфармацыяй аб спыненні дамовы з днём 30 чэрвеня 2013 г. Як канстатавала кіраўнік чаромхаўскага ГАСД Марыя Зіневіч, закон абавязваў адно два гады і страціў сілу 31 снежня 2012 г., затым для новага закону вызначана шэсць месяцаў часовага тэрміну і абавязваць будзе ён ад 1 ліпеня 2013 г. Значыцца, што апекуны асоб няздольных да самастойнага існавання не атрымаюць платы і такім чынам інваліды і старэчы застануцца бездапаможнымі. Не тычыцца гэта асоб, якія выконваюць апеку над абмежаванымі дзецьмі, якія хварэюць ад нараджэння. Правіламі гэтага закону ад 2004 года карыстаецца ў Чаромсе сем сем'яў. Плата за павіннасць да мінулага года складала суму 620 зл., а з пачаткам студзеня вызначана на 820 зл. (не абавязвае тут абумоўленасць аб даходах, а павіннасць выплачваецца бестэрмінова).

Новы закон, які пачне абавязваць ад 1 ліпеня 2013 г., прадбачвае новыя выплаты для асоб, якія адмовяцца ад сталай працы ды іншых крыніц заробку ў сувязі з неабходнасцю аказваць апеку над асобай І-ай групы інваліднасці з адначасовым паказаннем, што абмежаваная асоба патрабуе сталай апекі дзеля існавання, лячэння або рэабілітацыі. Другі крытэрый абумоўлівае, што даход сямейнікаў апекуна і сямейнікаў асобы патрабуючай апекі не перавышае 623 зл. на асобу. Гэты заблытаны, няясны таксама для самаўрадавых чыноўнікаў закон, памойму, паўплывае на шматлікія бюракратычныя замаруджванні ў прызначэнні належнай апекі няздольным да самастойнага бытавання старэчам, інвалідам і асобам з абмежаванымі магчымасцямі.

Вось да чаго зводзіцца палітыка кіруючай улады дзеля эканоміі і палатання дзіравага бюджэту.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Агарод Браніцкіх папрыгажэе

Гарадскія ўлады Беластока намераны аднавіць колішні стаў каля палаца Браніцкіх, ля ўвахода з боку парафіяльнага касцёла. Пасярод сажалкі запланавалі востраў, на якім пабудуюць дзве кладкі над каналам з двух бакоў. Вада ў стаў будзе плысці каналам пры палацовай агароджы. У часы Браніцкіх сажалка выходзіла па-за сённяшнюю агароджу аж да цяперашняй вуліцы Легіяновай. Ля става пабудуюць скульптуры Нептуна, з якіх будзе выцякаць вада.

Парквыя алейкі будуць у стылі барока. Яны з аднаго пункту будуць разыходзіцца як рогі ў гвяздзе каля доўшчыкаў, ва ўсе бакі. Зараз на тэрыторыі, на якой будзе стаў, пакуль што растуць высокія дрэвы-самасейкі.

**(яц)**

# Для госпісу, для жыцця



Хлебам і соллю прымалі гасцей гаспадары інтэграцыйнага спаткання „Добрай волі" ў Новай Волі. Тамтэйшы Фонд „Падляшскі анкалагічны госпіс", Госпіс прарока Ільі і Майстэрня для працоўнай тэрапіі аб'ядналі свае сілы і арганізавалі ўжо трэці веласіпедны марафон „Для госпісу, для жыцця", ганаровы патранат над якім трымаў бурмістр Міхалова.

Нававольская неабыякавасць да лёсу хворых і інвалідаў хутка пашырае круг сваіх аднадумцаў. Паводле слоў прадстаўніцы арганізатараў, каардынатаркі госпісу Магдалены Юрчук, яшчэ не здарылася, каб нехта адмовіўся ад падтрымкі гэтага мерапрыемства. Сапраўды, шмат дарослых і дзяцей далучылася да веласіпеднага марафона ў заўсёды рады гасцям скіт айца Гаўрыіла ў Адрынках. Сярод удзельнікаў марафона быў і намеснік прэзідэнта горада Беластока Аляксандр Сасна. З гэтай акцыяй ён звязаны ад самага пачатку. „Мне вельмі залежыць, каб людзі даведаліся пра госпіс, — кажа спадар Сасна. — Вялікая падзяка належыцца доктару Паўлу Грабоўскаму, які пакінуў дастатняе, варшаўскае жыццё, каб дапамагаць хворым і інвалідам у нашым рэгіёне. Апрача таго для многіх яго ініцыятыва стала вырашэннем праблемы беспрацоўя. Я задаволены, што столькі людзей сюды прыйшло, асабліва моладзі. Гэтае мерапрыемства з'яўляецца для іх самым лепшым урокам адкрытасці, добразычлівасці і талерантнасці. Добра помню часы, калі інвалідаў скрывалі ад людскога вока, а яны ж маюць аднолькавае права на паўнавартаснае жыццё".

У нававольска-дабравольную акцыю ўключыліся не толькі жыхары наваколля, але і госці з іншых куткоў Польшчы. Варшавянка Уршуля Вялеба ўжо трэці раз стартавала ў веласіпедным марафоне. „Я вельмі паважаю ўсіх, якія, адклаўшы ўсе свае справы набок, ахвяраваліся служыць іншым, — кажа яна. — Доктар Грабоўскі з'яўляецца адным з іх. Я рада, што з году ў год акцыя разгортваецца і здабывае штораз большую сацыяльную акцэптацыю".

Сапраўды, многа атракцыёнаў чакала сабраных на дзядзінцы нававольскага госпісу. Не абышлося і без канцэрта, прысвечанага першай гадавіне існавання хатняга госпісу, у якім прынялі ўдзел усе ахвотныя. Цудоўна запрэзентавалася там падапечная гайнаўскіх майстар-класаў па працоўнай тэрапіі Юліта Кічкайла. Беспамылкова, моцным, чыстым голасам праспявала яна дзве беларускія песні — „Зязюля-варажбітка" і „Бераг белых буслоў". Спявачка прызналася, што праблем з вывучэннем рэпертуару ў яе не было. Любоў да роднай мовы і песень прывіла ёй бабуля, з якой часта слухаюць па радыё беларускі канцэрт пажаданняў.

Незвычайныя паэтычныя здольнасці праявіў калега Юліты, Марцін Вашкевіч з Белавежы. У яго выкананні прагучалі аўтарскія вершы на польскай і расейскай мовах. Як сам прызнаўся, расейскую мову адкрыў для сябе, чытаючы кніжкі Чэхава. Паэтычнае натхненне разбудзілі ў ім жаночыя вершы Казімеры Іллаковіч. Тэмай яго твораў з'яўляецца перш за ўсё белавежская прырода і ўласныя, траўматычныя досведы. Лясная і хатняя жывёла займае першапланавае месца ў ягоных рыфмаванках для дзяцей. Рускамоўныя вершы ў асноўным кранаюць духоўнай часткі яго жыцця. З-пад пяра маладога паэта выйшла ўжо больш за сто сорак твораў. Літаратурным талентам ён перш за ўсё дзеліцца са сваім земляком, паэтам Барысам Руско. Марцін абяцаў спрабаваць сваіх сіл і ў беларускамоўнай творчасці. Выявіў, што яго дзед Павел Врублеўскі з падбельскіх Агароднікаў пасвіў кароў найчасцей з „Нівай" у руках.

Удзел у юбілейным канцэрце заявілі, між іншым, „Самыя зоркі" і „Гардрок" з Міхалова, „Сказка", а таксама крынская „Заранiца".

Праспяваўшы госпісу традыцыйнае „Многая лета", усе сабраныя падзяліліся вялікім, юбілейным караваем і гарбатай з сапраўднага тульскага самавара.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Сустрэча з Джоан Айві Станкевіч

**Сустрэцца з Джоан Айві Станкевіч, жонкай Вячкі Станкевіча (намесніка старшыні Рады БНР) мне давялося зусім выпадкова. І не першы раз я пераканалася, што такія сустрэчы найбольш вартасныя ды потым менавіта іх найбольш прыемна ўспамінаюць.**



Чаму якраз сям'я Станкевічаў пабывала ў Польшчы? Вось толькі што была выдадзена кніжка Джоан Станкевіч «Жыццё з водарам небяспекі: Эўрапэйскія прыгоды падчас падзення камунізму», а 14 траўня прайшла яе прэзентацыя ў Беларускім доме ў Варшаве. Кніжка выдадзена на англійскай мове і, што самае цікавае — на грошы аўтаркі. Такую магчымасць дае амерыканскі інтэрнэт-сэрвіс Amazon.com. Гэта называецца публікацыя па жаданні і ў прынцыпе кожны з нас таксама можа выдаць напісаную сабою кніжку ды запраектаваць да яе сваю вокладку. Тады ты ведаеш, што кніжка цалкам твая ды ніякі рэдактар не ўвядзе сваіх парадкаў. Джоан пакарысталася гэтай магчымасцю таксама з верай у тое, што яе кніжка людзям спатрэбіцца. Асабліва спатрэбіцца яна небеларусам. Беларусы ж ведаюць як выглядала рэчаіснасць у перыяд пасля распаду СССР, а далёка за акіянам некаторыя нават не ўяўляюць сабе такой краіны як Беларусь. Таму і на пытанні журналістаў Вячка Станкевіч адказваў, што перакладу на беларускую мову пакуль не плануецца.

Еўрапейскія прыгоды народжанай на невялікай ферме недалёка Манро ў ЗША Джоан, канешне, вартыя таго, каб з імі пазнаёміцца, хаця б дзеля таго, каб пазнаць погляд чалавека, які сам беларусам не з'яўляецца, пад савецкай уладай ніколі не жыў ды глядзіць на справы зусім збоку, можа больш аб'ектыўна. Але і сама аўтарка вартая таго, каб з ёю пазнаёміцца і можа чамусьці ў яе навучыцца. Перш за ўсё — адкрытасці на людзей. Яна сама падышла да мяне, калі якраз мы засталіся абедзве ў зале. Я чакала сяброўку, Джоан чакала мужа, якога журналісты вельмі мучылі пытаннямі. Яна проста спыталася, хто я такая і я нават не заўважыла, калі мінула амаль сорак хвілін нашае гутаркі. Прытым трэба адзначыць, што мне здавалася, нібыта мы ўжо некалі размаўлялі ды не было ніякага стрэсу — як перад сур'ёзнай размовай з сур'ёзнай пісьменніцай. Так і мы абмеркавалі ўсё: беларусаў Падляшша; тарнада Сэндзі, які знішчыў хату Станкевічаў у Нью-Джэрсі і што толькі тры тыдні таму зноў паявілася цёплая вада; фальклорны калектыў „Жэмэрва" і тое, ці яго праца з'яўляецца важнай; падарожжа Джоан і Вячкі (ці Уольтара, бо гэта ягонае амерыканскае імя) — яны ж прыехалі ў Варшаву (раней пабывалі ў чэшскай Празе) аўтафургонам і начавалі на кемпінгу; прыцу Джоан у Італіі... Яна распавяла мне таксама пра сваю сям'ю, сыноў. Размова вялася на англійскай мове, таму што Джоан трошкі разумее беларускую, але гаварыць не ўмее зусім. Яна сама называе сябе глухой на ўсякую мелодыю, што навуку іншых моў робіць вельмі складанай, калі не можаш запамятаць, як гучаць словы. Яна, напрыклад, не заспявае «Happy Birthday», песні на дзень народзінаў, вельмі простай і папулярнай. Гэты недахатак выклікае і забаўныя падзеі: аднойчы ў Італіі, калі Джоан размаўляла ў тэлефоннай будцы, хтосьці ўкраў ёй сумачку. Яна выбегла, замахала рукамі і крыкнула «ladro!», што абазначае «злодзей!» ды здзіўлялася, што ніхто не хоча ёй дапамагчы. Калі потым распавяла гэтую гісторыю сваім італьянскім сябрам, яны засмяяліся: Джоан памылкова крычала не «злодзей», а «таўстун», таму што на італьянскай мове гэтыя словы вельмі на сябе падобныя, а яна невялічкай розніцы сваім вухам не чула.

Ці я б магла падумаць, што так будзе выглядаць размова з публіцысткай, якая піша кніжку пра жалезную заслону, пра Радыё Свабода, пра ўсходнееўрапейскую палітыку? Трошкі неверагодна. Але такая ўжо філасофія жыцця Станкевічаў, якой добрым прыкладам будзе такі вось анекдот: калі тарнада знішчыла ніжні паверх іхняй амерыканскай хаты, яны перш за ўсё падумалі: «О вось, а мы ўжо даўно думалі зрабіць рамонт, ды і з'явілася нагода».

**Тэкст і фота Караліны ІГНАЦЮК**

# На сходзе ў Кузаве

Арганізаванне вясковых сходаў у Чаромхаўскай гміне запісана ў календары мясцовага самаўрада. Дагэтуль такія сходы праходзілі штогод у лютым і неаднойчы спалучаліся з выбарамі солтыса. Асноўнай тэмай схода ў мінулым была інфармацыя войта аб рэалізацыі задач за мінулы год і скарбніка аб праекце новага бюджэту. Сёлета тэрмін сходаў прадоўжыўся, паколькі чыноўнікі чакалі больш дэталёвай інфармацыі аб уступаючых у сілу 1 ліпеня новых правілах гаспадарання адпадамі, інакш кажучы, „смеццевага” закону. Такі сход адбыўся ў Кузаве 17 траўня ў 17 гадзін (раней а 13 гадзіне ў Янцэвічах) і быў апошнім у гміне. Самаўрад прадстаўлялі войт Юры Шыкула, намеснік войта Ірыней Леанюк, сакратар гміннай управы Марыя Іванюк, скарбнік Міраслава Кандрацкая-Найбук, намеснік кіраўніка гміннай камунальнай гаспадаркі Альжбета Попка і кіраўнік канцылярыі войта Галіна Баранава. Салэцтва прадстаўлялі радная Альжбета Каліноўская і солтыс Васіль Панасюк, які выконваў абавязкі гаспадара сходу. Пасля прывітання гасцей слова ўзяў войт, які расказаў аб рэалізацыі мінулагодніх задач і законе аб гаспадарцы нечыстотамі.

— Гэта спрэчны закон, — канстатаваў войт, — і пэўна выклікае шматлікія непаразуменні ды спрэчкі. Тычыцца гэта ставак за вываз нечыстотаў. Наша гміна з'яўляецца адзінай у павеце, якая прыняла стаўку паводле крытэрыю ад „коміна”, а не ад колькасці душ. Затым месячная стаўка будзе складаць 12 зл. за змешаныя адпады і 7 зл. за селектыўную зборку. Вывазкай смецця будзе займацца фірма, якая выйграе ў гміне таргі. Індывідуальныя дамовы ўладальнікі маёмасці будуць заключаць не з фірмай, адно з гмінай. Больш дэталёвую інфармацыю прад'явіла Альжбета Попка. Зрэшты, кожны прадстаўнік гміны адказваў на пытанні паводле сваіх кампетэнцый. Аб праекце бюджэту (навелізаваным ужо) гаварала скарбнік, аб інвестыцыях — намеснік войта. З таго, што кузаўцы пачулі, сёголета рушыць будова санітарна-каналізацыйнай сеткі ад Ставішчаў у Кузаву, здача ў карыстанне якой плануецца ў наступным годзе. Як інфармаваў Ірыней Леанюк, кошт далучэння каналізацыі да жылога будынка пакрые гаспадар. Апрача „смеццевага” закону краналася справа „спалярні” ў насычальні. Як паінфармаваў намеснік войта, на сённяшні дзень справа канчаткова нявырашана. Грамадскія кансультацыі працягваюцца. У вольных пытаннях Пятро Чыквін кpанyў праблему другога лекара ў гмінным асяродку здароўя. Войт адказаў, што гміна прапануе выгадныя ўмовы, з кватэрай і абсталяваннем, але лекары не рашаюцца прыняць працу ў Чаромсе. Справа надалей „адкрытая”. Сход завяршыўся пасля амаль двухгадзіннай сустрэчы .

**Уладзімір СІДАРУК**



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Дзень маці

Як штогод так і сёлета Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе супольна з Польскім саюзам пенсіянераў арганізавалі Дзень маці. І хоць абвесткі былі намнога раней распаўсюджаны ды войт асабіста інфармаваў аб мерапрыемстве на вясковых сходах, прысутнічала ў ім не больш за сорак пяць чалавек. Паўплывала на гэта, мабыць, надвор'е. З раніцы да абеду выпаў лівень. Ды і пахаванне ў Кузаве не паспрыяла культурнаму мерапрыемству. З больш чым сарака пенсіянераў вясковага пенсіянерскага гуртка прыйшлі адно дзве асобы. Нягледзячы на гэта, сустрэчу лічу ўдалай. Не было традыцыйных прамоў. Перш-наперш святочныя віншаванні з нагоды Дня маці перадалі войт гміны Юры Шыкула і старшыня пенсіянерскай арганізацыі Раман Туркевіч. Да віншаванняў прысутныя далучылі традыцыйныя „Сто лят”. Затым арганізатары запрасілі да супольнага пачастунку. Шампанскім мерапрыемства забяспечыў Раман Туркевіч, а ласункамі, фруктамі і напіткамі — Гмінны асяродак культуры. На мастацкую частку склаліся выступленні вакальных груп з вёсак Чаромхі і Баброўкі ды салістак Валянціны Верамчук з Вулькі-Тэрахоўскай і Вольгі Раманчук з Кузавы. Разынкам у спевах (не абы-якім) быў Грыша Боцюк з вёскі Чаромхі. Ён — харошы запявала. Голас у яго звонкі і шмат песень ведае. Адным словам — уся зала спявала з ім. А гулялі прысутныя ў такт дыскапольнай музыкі, якую падрыхтаваў намеснік старшыні пенсіянерскай арганізацыі Здзіслаў Закшэўскі. За акустыкай наглядаў працаўнік гміннай управы. Мелодыі змяняліся як у калейдаскопе — польскія, беларускія, украінскія. Але наогул царыла беларуская музыка і песня. Сагрaшыў бы я, каб не ўспомніў аб „уласным кошычку”, у які загадзя забяспечыліся ўдзельнікі імпрэзы. Было штосьці „мацнейшае для духа” ды і ў прыкуску вяндліны свойскай вытворчасці, вінегрэты, свежыя агурочкі і марынаваныя грыбкі. Мінулагоднія, разумееццa... Атмасферу дружнай сям'і нельга апісаць у кароткім допісе. Затым рэкамендую здымак з імпрэзы.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Праваднaя нядзеля

Тыдзень пасля Вялікадня вернікі Праваслаўнай царквы адзначаюць праваднyю нядзелю. З ранку ў царкве служыцца літургія, а пасля абеду вернікі моляцца са святарамі над магіламі суродзічаў за ўпакой, памінаючы аб Уваскрэсенні Хрыстовым. У Чаромсе-Станцыі праваднyю нядзелю адзначалі 19 траўня (не ў кожнай парафіі памінанне праводзіцца ў адзін тэрмін). Стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. На могілніку, які мяжуе з дарогаю на пагранпераход, сабралася шмат людзей. Адны дабіраліся пешшу, іншыя на роварах, але большасць прыехала на аўтамабілях. Не ўсім хапіла месца на аўтастаянцы. Некалькі дзесятак легкавушак стаяла ў радочку паабапал нешырокай асфальтоўкі. Тыя, што не памесціліся, займалі месца на абочыне краёвай дарогі. Зважыўшы на шматлікую колькасць вернікаў, над магіламі маліліся тры святары. Апрача чаромхаўскіх духоўных а. Мікалая Беламызага і а. Георгія Пліса, удзельнічаў бацюшка з Кузавы а. Аляксандр Навумчук. У праваднyю нядзелю ў Чаромху прыехалі чаромхаўскія выхадцы з самых адлеглых мясцін, каб пакланіцца сваім бацькам і суродзічам. Гэта была таксама нагода для сямейных сустрэч, супольнага застолля ды ўспамінаў.

**Уладзімір СІДАРУК**



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Солтыс і „Ніва”

Каб купіць беластоцкі беларускі тыднёвік па-за Беластокам — справа нялёгкая. Між іншым таму ў Нараўчанскай гміне распаўсюджваннем роднага часопіса заняўся солтыс Новага Ляўкова. Пра гэта найлепш ведаюць жыхары Ляўкова, Плянты, Падляўкоўя, Ахрымоў, Сушчага Барка і Капіталшчыны. І не здарылася, каб той, хто хоча прачытаць „Ніву”, яе не атрымаў. 4-5 экземпляраў „Нівы” заказваў былы наш карэспандэнт Уладзімір Клімюк з Плянты. Ён высылае яе сваім знаёмым за мяжу тады, калі „Ніва” надрукуе нешта пра Плянту. Гэтак было апошнім часам, калі мы пісалі пра мінулае Плянты.

У 20 нумары „Нівы” ад 19 мая гэтага года была заметка «Яны зацікаўлены „Нівай”». 20 мая круг чытачоў у Новым Ляўкове павялічыўся яшчэ на сем асоб. „Ніву” пачалі чытаць Мікалай Ігнацюк, Валянціна Рыгаровіч, Марыя і Раман Крышані, Люба Скепка ды Раіса і Міхал Баканачы.

Варта дадаць, што ў суботу, 18 мая г. г. солтыс паехаў у пошуках „Нівы” ў Гайнаўку. Спытаў пра родны часопіс на пошце. Яму адказалі, што ўжо якраз прадалі апошні экземпляр. Колькі іх было, касірша не ведала.

# Мала дрэў у вёсцы

Каб захапляцца прыгожымі дрэвамі, цяпер неабходна паехаць у лес або, калі ты ў горадзе, пайсці ў парк ці ў скверык. У маёй вёсцы Новае Ляўкова (Нараўчанская гміна) засталіся толькі рэдкія экземпляры стройных дрэў. А яшчэ шэсцьдзесят гадоў таму паабапал вуліцы раслі вязы, ліпы, бярозы, ясені і вербы. Шмат было дрэў. А як цяпер?

Многа прыдарожных дрэў ссеклі, між іншым, пад дратамі вулічнага электраасвятлення або ў сувязі з пашырэннем вуліцы. Пару гадоў таму ў вёсцы будавалі тратуар і ссеклі шмат ліп над ровам і на абочыне дарогі. Некаторыя вырывалі з пнямі.

У вёсцы раслі чатыры вялікія і галінастыя вязы. Зараз у маі ссеклі ім верхавіны. Сухое голле пачало падаць на маставую павятовай дарогі. Мабыць, сёлета прыйдзецца „скасаваць” яшчэ каля дзесяці дрэў, калі пачнуць укладку тратуара на другім баку вуліцы. Так ужо ёсць, калі хочам пашырыць вуліцу. Тады на дрэвы ніхто не зважае. Вось таму ў маёй вёсцы і ў іншых сёлах усё менш і менш дрэў.

У Новым Ляўкове адзін жыхар усё ж прыдбаў сабе міні-парк. Цяпер, у маі, у ягоным бярэзніку грыбы паявіліся. Гэты гаспадар — вялікі любіцель прыроды ды заўзяты рыбалоў-вудзільшчык.

# „Ніва” пісала і...

У мінулым годзе я напісаў у „Ніву” заметку пад загалоўкам „Мала кошыкаў”. На вуліцах у Гайнаўцы было мала бляшаных кошыкаў для смецця. Яны неабходны, перш-наперш, на прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі і ПКС. Якраз тут найчасцей збіраюцца людзі і чакаюць „свайго аўтобуса” або папросту так сабе сядзяць на лавачцы. Амаль кожны, хто выходзіць з аўтобуса, не мае куды ўкінуць выкарыстаны білет або нейкую паперу.

Гарадскія ўлады ўзялі крытыку сабе да сэрца. Зараз на галоўных гарадскіх вуліцах дастаткова кошыкаў для смецця. Найбольш па вуліцах 3 Мая, Ю. Пілсудскага, С. Баторыя, кс. І. Верабея і іншых. Тут цяпер прахожыя ўжо не кідаюць паперку на тратуар або за сценку пачакальні пад стрэшкай.

**(яц)**

# Белпошта ўшанавала Каліноўскага і Прытыцкага

Беларускае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Белпошта” ўшанавала двух беларусаў Беласточчыны — Кастуся Каліноўскага з Мастаўлянаў і Сяргея Прытыцкага з Гаркавічаў. Прадпрыемства „Белпошта” выпусціла паштоўку, прысвечаную Кастусю Каліноўскаму і паштовы канверт, прысвечаны Сяргею Прытыцкаму. Канверт і паштоўку аформіў мастак Мікола Рыжы.

На паштоўцы адлюстраваны партрэт палітычнага дзеяча, публіцыста, паэта, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гадоў на землях Беларусі і Літвы Кастуся Каліноўскага, старонкі „Мужыцкай праўды”, а таксама момант паўстання. Паштоўку Белпошта прысвяціла 175-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Наклад яе — 30 тысяч асобнікаў.

Сяргей Прытыцкі (1913-1971) — дзяржаўны і палітычны дзеяч Беларусі. У гады Другой сусветнай вайны быў адным з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі. З 1968 года — старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Імем Сяргея Прытыцкага названы вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, Маладзечне. Пра яго рэвалюцыйную дзейнасць зняты мастацкі фільм „Чырвонае лісце”.

На канверце адлюстраваны партрэт Сяргея Прытыцкага, фрагмент вуліцы Прытыцкага ў Мінску і напісаны гады яго жыцця. Канверт выйшаў з друку накладам 50 тысяч асобнікаў.





**Сяргей ЧЫГРЫН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Гайнаўка — 17 мая — ПШ № 6

# Вось якія пірагі!



Пра Свята беларускай культуры ў гайнаўскай „шасцёрцы" можна сказаць — жывая радасць!

Усім чытачам, якія любяць гуляць, танчыць, спяваць і ўдзельнічаць у конкурсах, ставім пад развагу такое вось пытанне: як захаваць энтузіязм праз пяць гадзін і не стаміцца?

У адным допісе цяжка назваць усе спаборніцтвы, сюрпрызы і гульні, якія прыдумалі дзеткам настаўнікі і бацькі. Ужо ў пачатку свята ў спартыўнай зале завіравала. На паркет выйшаў дзіцячы танцавальны гурт „Перапёлка" Гайнаўскага дома культуры. У іх праграме — беларускія танцы: полькі, крыжакі, мікіта...

— Нашыя вучні састаўляюць больш за палову танцораў, — адзначаюць з гонарам настаўнікі.

Арганізатарка свята Людміла Грыгарук найперш хацела гаварыць аб працы іншых настаўнікаў. Дні беларускай культуры зрабілі для ўсіх вучняў школы: ад трэцяга па пятыя класы. Мая субяседніца налічыла аж 16 настаўнікаў, якія дапамагалі ў арганізацыі беларускага свята. Пачалі ўжо ў студзені. У апошні тыдзень, калі поўнай парай ішла падрыхтоўка, дахаты вярталіся позні вечарам. Дапамагалі бацькі, якія спяклі для кожнага класа па кашы салодкіх пірагоў. Некаторыя кашы напаміналі традыцыйную велікодную свянцонку: у іх была вяндлінка, пірагі і ўсе іншыя смакоцці.





Феномен гайнаўскага свята заключаўся ў тым, што яно было для ўсіх дзяцей — для тых, хто вывучае беларускую мову і для тых, хто не мае з ёю дачынення ў школе і хаце. І хоць апошніх было больш, усе ахвотна падключыліся да гульні. Асабліва падабаліся спартыўныя спаборніцтвы: качанне абручом і „пасадка бульбы". Вялікім зацікаўленнем карыстаўся конкурс пра этнаграфію, які падрыхтавала настаўніца Гражына Паўлючук...



Спаборніцтвы і гульні былі прыдуманы практычна з кожнай галіны школьнага жыцця. Вялікім дапаўненнем было рашэнне пластычнага конкурсу пад загалоўкам „Мая айчына".

Свята ўдастоілі сваёй прысутнасцю многія госці, у тым ліку сам бурмістр Юры Сірак.

На пытанне, ці ўлады горада дацэняць ідэю і працу арганізатараў, граданачальнік адказаў:

— Будзем пра гэта думаць!

Я таксама думаю пра арганізацыйны феномен і супрацоўніцтва настаўнікаў гайнаўскай „шасцёркі", якія на працягу пяці гадзін наладзілі жывое і багатае ў культурны пераказ беларускае свята для двух соцень вучняў!

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК





# Сустрэча з праваслаўнай паэзіяй


Фота Улі ШУБЗДЫ

Уважлівы чытач «Зоркі» напэўна звярнуў увагу на тое, што дзеткі, якія вывучаюць беларускую мову, вельмі актыўна ўдзельнічаюць у шматлікіх конкурсах. Таму часта на каляровых старонках «Зоркі» пішацца аб вашых поспехах і змаганнях. І тут хачу ўзгадаць аб чарговым незвычайным дэкламатарскім конкурсе для дзяцей і моладзі. У чым яго адметнасць? Менавіта вучні, якія прымалі ў ім удзел, былі праваслаўнага веравызнання. Таксама падабраныя імі творы мелі ўжо больш сур'ёзны змест.

15 траўня ў Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку прайшоў конкурс пад загалоўкам «Сустрэча з праваслаўнай паэзіяй». Прынялі ў ім удзел дзеці з пачатковых школ і гімназій. Усе былі добра падрыхтаваныя сваімі настаўнікамі і бацькамі. Вершы, якія дэкламавалі вучні, аб'ядноўвала рэлігійная тэма.

— Мой верш вельмі вясёлы, цёплы, — сказала Наталька Сцяшэнка, якая першы раз прымае ўдзел у конкурсе. — Расказвае аб анёлку, які іграў на розных інструментах і хацеў стаць музыкантам.

Ёсць штосьці прыгожае ў элегантна апранутых вучнях, якія дэкламуюць вершы, напрыклад, аб анёле-ахоўніку. Здаецца, што якраз для такога відовішча на мерапрыемства прыйшло так многа бацькоў. Некаторыя, як Ірэна Паўлючук, задыханая, у апошнюю хвіліну прыбегла ў Цэнтр праваслаўнай культуры на выступ сына:

— Мяне цешыць, што ён сам хоча прымаць удзел у конкурсе праваслаўнай паэзіі. Яго не трэба намаўляць, ганяць. Ён сам знаходзіць радасць у паглыбленні ведаў аб нашай праваслаўнай традыцыі.

Незвычайнай была таксама камісія, у склад якой уваходзілі, між іншым, святары. Дыякан Пётр Баравік (адзін з членаў камісіі) выявіў «Зорцы» таямніцу, на што ў асноўным звяртаецца ўвагу пры ацэнцы маладога дэкламатара. Менавіта важная тэма верша, ступень ведаў аб змесце верша і ўзровень захаплення вершам.

Першае месца ў катэгорыі дзяцей I-III класаў занялі Якуб Навумюк і Станіслаў Банькоўскі, а IV-V класаў — Аляксандра Раманюк. Першую ўзнагароду ў катэгорыі вучняў VI класа і гімназістаў атрымала Марта Прушынская. Віншуем тых, якія перамаглі без падказкі дыякана Баравіка!

**Уршуля ШУБЗДА**



# Музыка з кайфам

## Акардэон ці баян?



Павел Неўмяржыцкі — зараз беларускі герой. Тры гады таму назад паехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе пасля хутка вырашыў вярнуцца і застацца надаўжэй. У час першай паездкі, як баяніст-віртуоз, атрымаў шмат прызоў на чэмпіянаце, у якім удзельнічаў. Калі паехаў чарговы раз, прыйшлося яму зарабляць на вяселлях і ў рэстаранах. Не здаваўся і яму пашанцавала. Лёс яго сустрэў з музыкамі вельмі папулярнага ў свеце гурту „Gogol Bordello". Гэтыя джыпсі-панкі хутка прынялі Паўла ў групу, хаця апошнім тэстам для яго напэўна быў жывы выступ, бо іміdж і паводзіны на сцэне, побач музычных ведаў і таленту, у гэтым гурце асноўныя рэчы. Для першай фотасесіі доўга шукалі Паўлу адпаведнага выгляду. Канчаткова лідар гурту вырашыў, што Паўла апранудь у міліцэйскую кашулю і такім чынам стварылі новую сцэнічную постаць — мент-панка. Цікавых гісторый, звязаных з амерыканска-славянскім гуртом, напэўна намнога больш, але найважнейшае ў гэтай гісторыі, што адзін з самых распазнавальных андэграўндных гуртоў зараз іграе з беларускім музыкам. Павел тым самым унёс у „Gogol Bordello" чарговую нацыянальную рысу, бо варта адзначыць, што гэта шматнацыянальны гурт, у якім іграюць, між іншым, украінцы, расіяне, эфіоп, кітаянка, а зараз і беларус. Гэта ўсё безумоўна ўплывае на характар і музыку гурту. Павел трапіў у гурт як баяніст і ў адным з інтэрв'ю пры нагодзе тлумачыць розніцу паміж акардэонам і баянам. Я прызнаюся, што хаця крыху займаюся музыкай, растлумачыць розніцу не змагла б. Тады ўвага: акардэон мае клавішы, а баян — кнопкі. Зараз аднак такі час, што можна набыць ці заказаць такі інструмент, на якім можна іграць на кнопках, а гук будзе як з клавішаў.

— Амерыканцы называюць гэта акардэонам з кнопкамі, — гаворыць Павел.

Ён сам чакае зараз спецыяльнага інструмента, які па заказе рыхтуе яму беларуская фабрыка „Зонта" з Маладзечна, таму толькі чакаць, калі баяністы ў свеце будуць набываць баяны спецыяльнага выпуску для Паўла Неўмяржыцкага! А мне застаецца запрасіць пазнаёміцца з шаленствам, якое ў музыцы прапануе „Gogol Bordello".

**i_basovka@o2.pl**

# Загадка № (22)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 6 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Адна ў лесе*
*з белай карой.*
*Багатая сокам*
*Вясновай парой.*

Васіль Жуковіч

Адказ на загадку № 18-13: **Вясна.** Узнагароды — **запісны кніжкі** — выйгралі **Марцін Аврчук, Вольга Мішчук, Наталля Ніканюк, Габрыела Красько** з Арэшкава, **Аляксандра Раманюк** з НПШ свсв. КіМ у Беластоку. Віншуем!

# Польска-беларуская № 22 крыжаванка

Jak, Skóra, Woda, Sok, Usta, Wilk, Sowa, Rad, Trakt, Kraków, Dudek, Jar, Jak, As, Kort

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18:**

Наш, збор, май, сіні, зялёны, лек, мама, доля, акно, вада, Ян, ар. Бяседа, код, ар, сям'я, сіла, Нёман, мінак, на, ой, хор.

Узнагароды, фламастары, выйгралі **Юлія Лясота, Іаанна Лукша** з Нараўкі, **Давід Івановіч, Матэвуш Бурачэўскі, Міхал Сахарчук, Арыядна Бакер** з НПШ свсв. КіМ у Беластоку, **Моніка Зырчук-Жар** з Орлі, **Артур Лапата** з Бабікаў, **Кацярына Лаўрашук, Юлія Скарбіловіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Надзейнае Партнёрства:



Андрэй Хадановіч дэкламуе свае вершы ў час аднаго з краснагрудскіх вечароў

# культура! (ч.ІІ)

**Удзельнікі сімпозіума «Усходняе партнёрства як культурны праект» у Краснагрудзе задумваліся таксама над тым, як павінен выглядаць асенні II Кангрэс культуры Усходняга партнёрства ў Любліне і як будуць праходзіць імпрэзы ў рамках «Усход культуры. Жэшаў — Люблін — Беласток» (у Беластоку будзе гэта наступны выпуск фестывалю «Іншае вымярэнне» 25-29 верасня). Падчас аднаго з вечароў чатырох паэтаў з Польшчы, Беларусі, Украіны і Літвы чыталі свае вершы. Андрэй Хадановіч, кіраўнік беларускага ПЭН-клуба тэкст адной са сваіх паэм «Беларускія мужчыны» выканаў рэпам. Ён прачытаў таксама новы твор «Пагранічча», які ўзнік за некалькі гадзін падчас плавання паэта на лодцы па возеры Голны пад краснагрудскім дварком Чэслава Мілаша.**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Як мы ўжо згадвалі ў папярэднім нумары, 10-12 мая ў краснагрудскі дварок, у якім зараз знаходзіцца Міжнародны цэнтр дыялогу, прыбылі прадстаўнікі пяці польскіх усходніх ваяводстваў, а таксама прадстаўнікі няўрадавых арганізацый і культурных устаноў, якія супрацоўнічаюць з краінамі-ўдзельніцамі Усходняга партнёрства. Сустрэча была арганізавана сумесна Усходнім домам у Брусэлі і сейненскім Фондам «Пагранічча мастацтваў, культур і народаў». Ганна Выганоўска-Блажэеўска з Нацыянальнага цэнтра культуры, успамінаючы аб планаваных імпрэзах у рамках «Усходу культуры», мерапрыемства, якое мае спалучаць праз імпрэзы тры гарады і рэгіёны ўсходняй Польшчы і краіны Усходняга партнёрства (Арменію, Азербайджан, Беларусь, Грузію, Малдову, Украіну), сказала:

— Упершыню разам Беласток, Люблін і Жэшаў адкрылі для сябе новыя магчымасці садзейнічання асяроддзяў для распаўсюджвання культуры па-над межамі: мастацкім абменам, мабільнасцю мастакоў і твораў.

Як адзначыў Кшыштаф Чыжэўскі, кіраўнік «Пагранічча», у будучыні «Усход культуры» павінен быць больш адкрытым для няўрадавых арганізацый па абодва бакі мяжы і не павінен мець формулы простага фестывалю-агляду (таму што гэтая формула ў цяперашні час ужо вычэрпваецца), але мэтанакіроўвацца на распрацоўку агульных, доўгатэрміновых дзеянняў.

Паўтара тыдня пасля краснагрудскай сустрэчы адбылася ў Варшаве прэс-канферэнцыя з міністрам культуры і нацыянальнай спадчыны, дырэктарам Нацыянальнага цэнтра культуры, які фінансаваў гэты праект, і прэзідэнтамі трох гарадоў, якія ўдзельнічаюць у ім. Пасля яе, у камюніке Міністэрства культуры было заяўлена: «„Усход культуры" ўяўляе сабой новую форму культурнага супрацоўніцтва польскіх усходніх гарадоў з Усходнім партнёрствам. З'яўляецца працягам праекта „Еўрапейскі стадыён культуры", які ў працэсе падрыхтоўкі да „Еўра-2012" быў праведзены ў 2011-2012 гадах у Жэшаве і ў 2012 годзе таксама ў Любліне. Выкарыстоўваючы культурны патэнцыял апошніх двух гадоў, Беласток, Люблін, Жэшаў вырашылі працягнуць праект, даўшы яму новае імя, маючае на ўвазе не толькі геаграфічнае становішча гарадоў, супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства, але і дынамічнае культурнае развіццё Усходняй Польшчы. „Усход культуры" быў запушчаны ў сакавіку на семінары „Культура для Усходняга партнёрства" ў Любліне (пісалі мы аб ім непасрэдна пасля яго завяршэння — М. Х.). Такім чынам праект аб'ядноўвае сілы Усходняй Польшчы ў пабудове Усходняга партнёрства і ініцыюе навучанне новых кампетэнцый у культуры, у тым ліку ў галіне міжкультурнага дыялогу, новых медыяў і анімацыі і кіравання праектамі па-над межамі. Місія праекта заключаецца ў развіцці гарадоў праз культурнае супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства, а таксама пашырэнне супрацоўніцтва паміж польскімі ўсходнімі гарадамі для стварэння агульных, адважных і шматгадовых культурных праграм». Сярод праектаў, заяўленых у рамках «Іншага вымярэння» абяцае быць цікавым спектакль «Таксі Падляссе» тэатра «Калектыў» і беластоцкага Лялечнага тэатра, натхнёны тэкстамі аўтараў родам з Беластока і Падляшша, у тым ліку Міры Лукшы, і артыкуламі мясцовых газет, а прызначаны для гледачоў — пасажыраў аўтобуса, ездзіўшага па вуліцах горада да месц з прадстаўлення. Мабыць, падзеяй будзе «Antygona.eu» — антычная трагедыя на рынках Беластока і Крынак — спектакль Драматычнага тэатра ў сцэнаграфічнай апрацоўцы мастака Лявона Тарасэвіча (ініцыятара праекта), з удзелам хароў з Кыргызстана і Беларусі, і ў супрацоўніцтве з жыхарамі Крынак і Беластока. У рамках «Іншага вымярэння — Усходу культуры» будзе прадстаўлены добравядомы спектакль «Ой, даўно, даўно. Беларускія гісторыі Падляшша» ў выкананні моладзі з Аб'яднання АБ-БА, а таксама «Краса жыцця» — эцюд Танцавальнай групы, які — як кажуць удзельнікі — адлюстроўвае мультыкультурную атмасферу Беластока, спектаклі «Трусы», прадстаўленне тэатра «Trzyrzecze» па п'есе беларускага драматурга Паўла Пражкі ды прадстаўленне «Сонца на Усходзе, на Захадзе месяц — сон пра Летнюю ноч» — парад інспіраваны ўсходнім рытуалам купальночкі і «Сном у летнюю ноч» Уільяма Шэкспіра, падрыхтаваны «Паштоўкай» з Палічнай. З канцэртам таксама выступяць м.інш. вядомая беларуская этна-група «Тройца».

Вяртаючыся да сустрэчы ў Краснагрудзе, адкрываючы ўжо яе ходзе паэтычны вечар, Кшыштаф Чыжэўскі сказаў:

— Гэта якраз паэты, і ніхто іншы, заступаюцца за Вялікае Княства Літоўскае.

Андрэй Хадановіч пазней сказаў «Ніве» аб тым, чым у яго разуменні з'яўляецца УП для беларусаў-людзей культуры:

— У культурным вымярэнні, якога ў дадзены момант не хапае, УП павінна аб'ядноўваць, стаць нейкім мастком для сустрэчы. Што неабходна, гэта ўзаемнае знаёмства ў рамках гэтага праекта народаў шасці краін, якія да яго далучыліся на ўсходзе з іх агульным вопытам постсавецкай прасторы. Можа гэта нейк злучае Беларусь і Украіну з іншымі ўсходнімі краінамі УП. З іншага боку УП магло б для гэтай шасцёркі стаць свайго роду трыбунай, каб «прамаўляць» на Захадзе, каб паказаць, што не толькі разлічваем на дапамогу, але ў нас ёсць цікавая культура, якая можа прапанаваць штосьці цікавае для заходніх чытачоў, гледачоў і слухачоў. У мяне такое ўражанне, аднак, што ў УП цяпер размаўляецца на трох мовах: дзеячаў культуры, менеджараў і бюракратаў. Яшчэ менеджар, арганізатар, можа дагаварыцца, напрыклад, з паэтам. З чыноўнікам таксама. Але паэт з бюракратам непасрэдна не дагаворацца. Так што, напэўна, добра, што так шмат няўрадавых арганізацый удзельнічае ў культурным праекце УП, таму што яны могуць быць перакладчыкамі гэтых узаемна незразумелых моў.

Адзначыў:

— Я зайздрошчу Польшчы, што мае кракаўскі Інстытут кнігі, які займаецца прасоўваннем польскай літаратуры. Гэта вынікае, як і ў Чэхіі, Літве і Славакіі, з разумення, што калі не ўваходзіцца ў першую пяцёрку ці нават дзесятку найбуйнейшых моў свету, трэба зрабіць многае для прасоўвання сваёй літаратуры, у тым ліку выхаваць за мяжой перакладчыкаў, партнёраў, якія ў іх краінах будуць садзейнічаць. Наколькі я ведаю, беларуская ўлада гэтым не займаецца, але гэта можа і добра, таму што можна сабе ўявіць, у чым яна садзейнічала б. Такім чынам мы, беларусы, павінны індывідуальна звяртацца па дапамогу ў гэтых адносінах да нашых калег на Захадзе, а асабліва да найбліжэйшых суседзяў, у тым ліку палякаў, якія лепш разумеюць нас, таму што ў іх ёсць падобны вопыт. Думаю, чы аб культурным вымярэнні УП, вядома, паяўляецца шмат спакус і небяспек. Беларусь бачыцца, перш за ўсё ў палітычным кантэксце, у простых, чорна-белых колерах, як поле бітвы паміж дабром і злом. У Беларусі не ўсё такое адназначнае. Сярод тых, хто на баку «чорных», ёсць і такія, што разумеюць усё, а на баку апазіцыі не ўсе рыцары на белых конях. Насуперак стэрэатыпам, сучасная беларуская літаратура бывае добрай не таму, што з'яўляецца супрацівам Лукашэнку, што пад покрывам прыгожага пісьменства практыкуе журналістыку.

Дадаў:

— Можна наш народ абвінавачваць у ляноце і пасіўнасці, але мы гатовыя да дыялогу, а не навязвання свайго меркавання. Можа таму, што рэдка хто калі-небудзь слухаў пра нашы патрэбы.

Пры нагодзе мы спыталіся ў прадстаўнікоў Усходняга дома ў Брусэлі, прысутных у Краснагрудзе, што робіцца далей з ідэяй стварэння Цэнтра перакладаў беларускай літаратуры, да стварэння якога заклікаў на сустрэчы ў Брусэлі ў лістападзе мінулага года (з ініцыятывы Падляшскай маршалкоўскай управы) мастак і выдавец культавага мінскага часопіса «pARTisan» Артур Клінаў, якога зяўзятарам з'яўляецца таксама Андрэй Хадановіч. Адказ, які я атрымаў, быў наступны:

— Нічога аб гэтым не ведаем. Па вяртанні ў Брусель зоймемся справай.

Завяршаючы абмеркаванні, удзельнікі сімпозіума ў Краснугрудзе вызначылі як у рамках Усходняга партнёрства пабудаваць культурны праект. І так, на іх думку, Партнёрства павінна быць «прасторай пагаднення і так званых гарызантальных кантактаў так паміж краінамі-партнёрамі, як і суседзямі — Расіяй і краінамі ЕС». Неабходна свядомасць і павага разнастайнасці краін, якія з'яўляюцца часткай УП, іх розных культурных, рэлігійных, гістарычных, моўных і палітычных традыцый. Для стварэння кожнага партнёрства і кожнай ініцыятывы, так і ў дадзеным выпадку, неабходны давер — на міжасобасным і міждзяржаўным узроўнях, без пагляду зверху, падазронасці, паблажлівасці. Існуе неабходнасць доўгатэрміновых, перспектыўных сумесных культурных мерапрыемстваў, якія ствараюць грамадскі капітал і перааддольваюць патэрналізм у адносінах да ўсходніх краін, роўнасці, рэальнага партнёрства ў рэалізацыі сумесных мерапрыемстваў (сутнаснага, фінансавага, арганізацыйнага), непавучання, а сумеснага навучання, і таксама большага ліку і інтэнсіўнасці мерапрыемстваў ва ўсходніх краінах. Культурны праект Усходняга партнёрства павінен улічваць нізавыя мясцовыя ініцыятывы. Каб пазбегнуць размяшчэн-

працяг ☞11

# (Мела)драма на „лініі Молатава”

**У Вярхучы не заўважыў я следу па колішнім касцёле; мабыць ягоны след астаўся толькі ў гістарычных дакументах. Нават крыжа ніводнага там не было відаць. А вось след ад савецкіх фартыфікацый захоўваецца і, мабыць, будзе яшчэ трываць доўга-доўга, мо так доўга, як стронцый ці іншыя чарнобыльскія нукліды, а мо нават так доўга, як савецкі менталітэт у насельніцтва Блакітнаазёрнай. Бо ж індактрынацыя насельніцтва імперыі адбывалася не менш салідна, чым пабудова „лініі Молатава”.**

Хто ведае, як выглядалі б тыя савецкія „точкі”, калі б адносіны паміж будаўнікамі і тамашнім мясцовым насельніцтвам былі больш дружалюбныя, даверлівыя, калі б не падаў на іх цень жорсткасці ранейшых уладароў і не менш трывожны страх перад новымі з таго ж самага напрамку. Калі б жа не было таго страху перад надта магчымым далёкім перасяленнем, мясцовыя маглі б планаваць сваю будучыню і думаць пра нейкія свае мясцовыя інвестыцыі, для якіх вельмі падыходзіў бы, напрыклад, цэмент, што прызначаўся для будаўніцтва дотаў. І тады тыя „точкі”, магчыма, выглядалі б так, як зараз у Вярхучы выглядае пункт прыёму малака, на рампе якога бестурботна вырасла прыстойная бяроза. Выгляд апошняга аб'екта наводзіць думку, што прызначаныя на яго выкананне — ужо пры Народнай Польшчы — будматэрыялы былі скарыстаны ў больш шырокім, не надта афіцыйным, дыяпазоне.

Пакінутыя савецкія доты стварылі мясцовым жыхарам немалы клопат. Паўбяды, калі яны асталіся на полі — іх можна неяк абмінуць. Але саветы пабудавалі іх і на гаспадарскіх панадворках і тых няпрошаных вельмі трывалых „падарункаў” няма як пазбыцца. Вось у Путковічах-Надольных адзін такі дот савецкія фартыфікатары пабудавалі на двух панадворках, быццам не было для яго іншага месца. У Мінчэве такі дот стаіць на адным панадворку і гаспадару ўдалося наладзіць на яго версе нешта накшталт веранды...

Мінчэва. Старэйшыя, уважлівыя чытачы „Нівы” мабыць прыгадваюць назву гэтай вёскі з цыкла рэпартажаў „Буг у агні” Віктара Рудчыка, якія публікаваліся трэць стагоддзя таму назад. Бо ж менавіта там наш дапытлівы даследчык ваенных падзей на „лініі Молатава” натрапіў на незвычайны сюжэт, які можна было б аднесці да катэгорыі ваенных *love stories*. Думаю, што варта тую гісторыю прыгадаць яшчэ раз. Вось вытрымкі з апавядання Віктара Рудчыка:

„Гісторыя здалася мне родам з казачных сюжэтаў. Кацярына паходзіць з вёскі Сідравічы Магілёўскага раёна. Па камсамольскаму загаду направілі яе на працу ў Заходнюю Беларусь. Каця трапіла ў сталовую на станцы Сямятычы. Працавала кухаркай. У гэтую сталовую часта заходзілі савецкія воіны, а між імі быў і старшы сяржант Міхаіл Сініцын, вясковы хлопец, з калгаса, з-пад Смаленска. Знаёмства ў іх было кароткае. 16 красавіка 1941 года нарадзіла яна дзве дзяўчынкі-блізнючкі. Адну з іх назвалі Мая, а другую Рая. Кватараваліся ў вёсцы Мінчэва...

Разбудзіў страшэнны выбух. Снарад папаў проста ў хату і разарваўся між дахам і столлю. Старшы сяржант Сініцын пабег на свой пост. Нават не развітаўся як след з жонкай і дачушкамі... Агонь над хатай высокім стаўбом узвіваўся ў неба. Уцякалі кіламетры тры. Спыніліся ў знаёмых гаспадара ў вёсцы Сіневічы. Пад вечар прыехаў у Сіневічы нейкі селянін з Мінчэва і сказаў Каці, што яе муж забіты... Так распачаўся ўдовін лёс Кацярыны Сініцынай. Пайшла шукаць дапамогі ў людзей. Большасць сялян адносілася спагадліва. Былі аднак і такія, што гаварылі адкрыта ў вочы: „Вось, кацапкі, дачакаліся свайго!”.

Урэшце прыгарнула іх у сваю невялічкую хатку Марыя Качынская, таксама жанчына адзінокая, удава, у якой на руках асталося чацвёра дзяцей. Хата стаяла без вокан, не было за што і каму іх паўстаўляць...

Неўзабаве настала жніво. Кацярына, дачка сялянская, найперш вучылася жаць на бацькоўскіх загонах, а пасля хадзіла на працу ў калгас. Гэты вопыт цяпер ёй прыдаўся. Брала ў поле сваіх дочак-сіротак і, накарміўшы іх малаком, ставілася з сярпом на загоне або ішла падбіраць збожжа за касцом. Старалася як магла, колькі хапала сілы, каб толькі паказаць сябе з найлепшага боку, каб дагадзіць гаспадарам. І так завявала яна сабе славу добрай, працавітай жанчыны і дбайнай маці.

Каця спачатку часта наведвала магілу свайго мужа. А пазней пайшла на службу да Расткоўскага. Гэты Расткоўскі быў вельмі багатым селянінам, меў многа зямлі і патрабаваў людзей да працы.

Эдвард Расткоўскі ад лістапада 1939 года быў звязаны з польскім падполлем. Калі і да нас прыйшлі гітлераўцы, ён прадаўжаў сваю падпольную дзейнасць. Стаў камандзірам атрада Арміі Краёвай:

— Сувязь трымаў я з Даркам Смяроўскім з Драгічына. Ад яго я атрымоўваў загады, газеты, лістоўкі. Было гэта ў кастрычніку 1943 года. Паехаў я ў Драгічын. Трэба было мне купіць вупраж для двух коней, бо немцы яе забралі ў мяне. Зайшоў я да Смяроўскага. Нагрузіўся бібулай і сабраўся вяртацца дамоў. Тады падышла да мяне Кася і просіць, каб я ёй гэты хлеб узяў на фуру, што цяжка ёй несці. Не толькі хлеб, але і вас ахвотна падвязу. Была яна такая худая, тонкая, слабая, што ледзь на нагах трымалася. Выехалі мы нейкіх паўкіламетра за Драгічын і... немцы насупраць. Калі праўдзіць вобыск, — думаю — са мною канец. Выцягнуў я пакет з лістоўкамі і загадамі да іншых партызанскіх атрадаў і гляджу, дзе б яго схаваць. І тады Кася вырвала ў мяне гэты пакет з рук і схавала сабе пад кофту.

Праверка дакументаў прайшла паспяхова.. Жандары не рабілі нават вобыску ў возе. Толькі пацікавіліся, чаму руская жанчына, якая паводле пашпарту жыве ў Мінчэве, апынулася ў яго на возе.

— Гэта мая батрачка, — адказаў Эдвард Расткоўскі. — Яна працуе ў мяне і зараз мы вяртаемся разам з Драгічына.

Гітлераўцы адпусцілі іх. Каля вёскі Каця аддала пакет гаспадару, злезла з воза і падзякавала за дапамогу.

— Гэта я табе дзякую, — адказаў Эдвард Расткоўскі і тут жа дабавіў: — Заўтра прыходзь да мяне на хутар. Дам усё, што патрэбна табе і тваім дзецям.

Так прайшла акупацыя. Кацярына Сініцына перасялілася на хутар да Расткоўскіх. Жыла тут на правах батрачкі. Праўда, сабе і дзецям мела ўсё неабходнае, але працаваць даводзілася вельмі цяжка. Толькі адзін Эдвард адносіўся да яе спагадліва, ласкава. І шчыра дапамагаў у бядзе. Між імі ўсё больш і больш замацоўваліся дружалюбныя адносіны. Недзе ў пачатку мая 1945 года, ужо пасля вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў, Каця зацяжарыла. Выявіла гэта бацьку свайго ненароджанага яшчэ дзіцяці. Эдвард Расткоўскі рашыў тады, што ажэніцца з Кацярынай. Сям'я запратэставала. Бацькі заявілі, што на парог не дапусцяць такую нявестку, нягледзячы нават на тое, што Кацярына згадзілася прыняць каталіцкае веравызнанне і ў касцёле зарэгістраваць сваіх дочак. Тады Мая стала Марыяй, а Рая — Рэгінай. Эдвард аднак цвёрда трымаўся свайго рашэння. Наперакор бацькам, 29 чэрвеня 1945 года адбыўся іх скромны шлюб, а 22 лютага 1946 года нарадзілася першае, ужо іх супольнае, дзіця — трэцяя дачка Кацярыны. Ахрысцілі яе Галінай. Бацькі Эдварда Расткоўскага таксама цвёрда трымаліся свайго і сапраўды не пусцілі пад уласны дах жонкі свайго сына.

— То пайшоў я на чужую зямлю, — паясняе Эдвард Расткоўскі. — Узяў у арэнду даволі вялікую гаспадарку ды яшчэ купіў сам больш васьмі гектараў поля. Жыць можна было б, толькі... За прыналежнасць да падполля мяне праследавалі. Я тры гады дома не начаваў.

17 сакавіка 1948 года яго арыштавалі. Год прасядзеў у беластоцкай турме на допытах. Жонка ўзяла адваката. Бараніла яго нейкая жанчына. Гаварыла, што няма асноў для яго пакарання. Ну, хіба адзін толькі год, які і так ужо адсядзеў. Суд адбываўся двойчы. За другім разам Эдварда прысудзілі да сямі гадоў турмы. Кацярына асталася сама на гаспадарцы, а з ёю чацвёра дзяцей. Чацвёртае дзіця, сын Раман, нарадзіўся ў чэрвені 1948 года, ужо пасля арышту мужа. Эдвард Расткоўскі вярнуўся дамоў у 1956 годзе і тады бацькі папрасілі яго, каб пакінуў арэнду і вярнуўся на сваю гаспадарку. Ён згадзіўся”.

Стольki ў вялікім скарачэнні Віктар Рудчык. Гэты „казачны” сюжэт з'яўляецца адной з разнавіднасей адвечнай тэмы, якую ў літаратуры — у нашым цывілізацыйным асяроддзі — сімвалізуе стандарт Рамэа і Джульеты. Тут жа таксама маем дачыненне з узаемазахопленай парай, якую намагаюцца раздзяляць табуіраванні іхніх асяроддзяў. Сям'я вельмі багатага Эдварда не можа сцярпець яго захаплення нейкай зусім чужой ім дачкой калгаснікаў з двойкай чужых дзяцей. Сам Эдвард жа, хаця змоладу ўключыўся ў падпольнае змаганне з носьбітамі калектывізацыі, бачыць у Кацярыне не камсамольскую місіянерку, толькі вартасную чалавечую душу, якая адважна ратуе яго, „класавага ворага”, жыццё...

Віктар Рудчык пісаў прыгаданы тэкст у 1980 годзе. Не ўсё тады яшчэ дазвалялася ў нас пісаць; сёння можна было б больш. Але і так дзякуй яму за тое, што напісаў між радкамі. Кацярына ніколі не наведала ўжо сваёй радзімы, Падняпроўя. Бо хто ведае, ці за „измену родине” не чакала б яе там чарговае пекла...

У самое Мінчэва я не заходзіў, не было часу. Зайшоў у Вульку-Замкавую, што ў трох кіламетрах ад Драгічына. На адным з панадворкаў, зараз за брамай — бетонны дот. Мікола Гайдук, які пісаў пра тую вёску ў сваім „Краязнаўчым слоўніку”, не згадваў пра яго, спасылаючыся на Віктара Рудчыка: „не буду ўваходзіць яму ў дарогу”. А Віктар Рудчык пісаў пра гераізм савецкіх байцоў. Усяму свой час.

Цяпер час, калі Польшча ўшаноўвае змагароў за яе незалежнасць, і то даволі канкрэтна. Мяркую, што і сям'я Эдварда Расткоўскага не асталася па-за ўвагай за ягоныя падпольныя і турэмныя гады. Цікава затое, якой увагай „советской родины” карысталася крывіцкая калгасная сям'я Міхаіла Сініцына...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Дот на панадворку ў Путковічах-Надольных



Дот у Мінчэве



Дот у Вульцы-Замкавай

10 ☞ працяг

# „Гайнаўка-2013”

ту. Гэта нешта накшталт таго, як Шапэна з замілаваннем і майстэрствам выконваюць японцы і кітайцы.

## «Не закрывацца ў сваіх сценах»

Неправаслаўных пра іхняе зацікаўленне царкоўнай музыкай я пытаў невыпадкова. Я зыходзіў з таго, што безупынна падкрэслівае знакаміты дырыжор і сябра журы а. Юры Шурбак, чалавек, якога прозвішча асацыюецца з царкоўнай музыкай і для папулярызацыі якой зрабіў ён мабыць болей, чым хто-небудзь у Польшчы. Хацеў я пачуць адказ на папрок арганізатараў другога фестывалю — „Гайнаўскіх дзён царкоўнай музыкі”, які адбыўся на пазамінулым тыдні. Яны лічаць гэты другі фестываль „нецаркоўным”, „канцэртным”, пазбаўленым сакральнага характару, малітоўнасці і праваслаўнага духу. Дазволю сабе з гэтым не пагадзіцца. Як і з тым, што царкоўныя спевы павінны гучаць выключна ў храме. Напэўна, царкоўны спеў гэта малітва і з'яўляецца ён неад'емным элементам багаслужбы. Гэтая ўнікальная, багатая, разнастайная, прыгожая і зварушлівая форма малітвы ўзнікла ў Царкве і дзеля Царквы, яе атрыбут на роўні з іконаю і архітэктураю. Эстэтычныя якасці не існуюць дзеля саміх сябе, але дапаўняюць слова малітвы. Дык ці царкоўная музыка можа існаваць і па-за Праваслаўнай царквою, а дакладней па-за храмам? Па-мойму, не толькі можа, але і павінна. Калі спеў гэта ўзмоцненая малітва, то маліцца можна паўсюль: у любым месцы і аб'екце, а якая гэта будзе малітва, гэта залежыць ад унутранага настрою, ад глыбіні веры, ад таго, як да гэтай малітвы ставіцца сам чалавек. Глыбіню веры чалавека можа ацаніць толькі Бог! Яму і пакіньма ацэнку.

Пацвярджэннем слушнасці адкрыцця царкоўнай музыкі на навакольны свет з'яўляецца творчасць мітрапаліта Іларыёна (Алфеева) з Рускай Праваслаўнай Царквы, пра якога было сказана, што „гэта першы кампазітар сярод мітрапалітаў і першы мітрапаліт сярод кампазітараў”. Сваю „Пасію па Мацвею” мітрапаліт Іларыён (Алфееў) напісаў для хору і аркестра. Яе можна было пачуць і ў рамках фестывалю, аднак я раней слухаў яе па расейскім тэлебачанні і быў у захапленні. Калі б зачыніць яе ў сценах храма, то паменшылася б яе евангелічная, місійная роля. Першапачаткова напужаныя апосталы хаваліся, баючыся жыдоў, аднак атрымалі іншае заданне: не чакаць, пакуль людзі прыйдуць да іх, але самі пайшлі да паганцаў, хрысцячы іх і перадаючы ўсё, чаму навучыў іх Хрыстос. Тое самае і з іконай. Тое, што яны знаходзяцца паўсюль, у дамах, у аўтамабілях і ў музеях дазваляе азнаёміцца з іх прыгажосцю большай колькасці людзей. Гэта ўсвядоміла многім неправаслаўным духоўнасць праваслаўя, яго містыку і прыцягальную моц. Дзякуючы царкоўным спевам па-за храмам яго прыгажосць змаглі пазнаць людзі зусім не абазнаныя з праваслаўем. Не выключана, што дзякуючы такім фестывалям не адзін іншаверац зацікавіўся праваслаўем. І калі нават не стаў праваслаўным, то глядзіць на яго з павагай.


http://www.festiwal-hajnowka.pl

Кшыштаф Пэндэрэцкі і Мікола Бушко

Гэта важнае пытанне і яго нельга абысці маўчаннем. Магчыма, некаму не падабаецца, што за царкоўныя спевы бяруцца неправаслаўныя, людзі не азнаёмленыя з праваслаўнай багаслужбай, якія не разумеюць яго сімволікі і літургічнай мовы. Можа сапраўды не пры ўсіх спевах рукі самі складаюцца да малітвы і згінаюцца калені. Можа нехта і адчувае адсутнасць таго аўтэнтызму, якога, для прыкладу, не хапае белым еўрапейцам пры выкананні негрыцянскага блюза. Аднак хай ніхто не кажа, што блюз маюць права выконваць толькі амерыканскія негры, а іконы маюць права пісаць толькі праваслаўныя манахі, да таго ж з верай і талентам Андрэя Рублёва. Не праваслаўныя, свядомыя багацця сваёй Царквы, мы не павінны зайздросна сцерагчы свайго скарбу і хаваць яго ад іншых, засцерагаючы ад прафанацыі. Царкоўная музыка ўвайшла ў скарбніцу агульначалавечай культурнай спадчыны. Нашаму ўкладу ў яе трэба радавацца і ганарыцца. У нас яшчэ шмат чаго, што можам прапанаваць іншым, пахваліцца і падзяліцца. Дастаткова згадаць творы святых Айцоў і больш сучасных тэолагаў.

Хрысціянскія Цэрквы павінны адна адну ўзбагачаць, адна адну дапаўняць, каб больш паспяхова несці Добрую Навіну секулярызаванаму свету. З пункту погляду іміджу і рэпутацыі Царквы, не зважаючы на чалавечую амбіцыйнасць арганізатараў і любыя, слушныя ці неабгрунтаваныя непаразуменні, з пункту погляду слухача я хацеў бы, каб царкоўная музыка гучала як мага часцей і прыносіла людзям эстэтычную асалоду і духоўную карысць. Напэўна іх прынёс сёлетні XXXII Фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2013”, на якім мне пашчасціла прысутнічаць.




Надыход лета заўсёды асацыюецца з нейкімі вандраваннямі. Гэта натуральна, бо большасць людзей імкнецца пайсці ў чарговы ці пазачарговы адпачынак менавіта ў летнюю пару — надвор'е цёплае, адзення многа апранаць не трэба, шанцаў на снежныя заносы і працяглыя халодныя дажджы не надта многа. У сваю чаргу вандраванні часцяком звязаныя з цягнікамі і чыгункай, а перастук колаў нагандяе, апрача санлівасці, яшчэ і паэтычны настрой.

Вельмі ўдалае спалучэнне вандраванняў і рыфмаваных радкоў мы можам знайсці на сайце, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://chygunka.ru**. Беларуская чыгунка ў сваёй паэтычнай версіі значна больш прывабная, чым тая, якую можна пабачыць, напрыклад, у вагонах цягнікоў, што курсуюць ад Гродна ў розных напрамках не вельмі вялікай адлегласці. Да іх можна аднесці Гродна — Мінск ці Гродна — Віцебск.

Праўда, паэтычныя душы нібыта не заўважаюць разнастайных нязручнасцей, якіх хапае ў беларускай чыгункі. У гэтым запэўніваеш сабе, калі адкрыеш сайт з зялёнымі рамантычнымі фотаздымкамі на першай старонцы. Стваральнікі сайта няблага парупіліся пра тое, каб чыгунка перадавала чытачу не толькі подых вандраванняў, але і прымушала задумацца аб яголым жыцці.

Усе вершы на сайце сістэматызаваны — тут, напрыклад, ёсць старонкі, на якіх распавядаецца пра чыгуначныя станцыі, працаўнікоў чыгункі, каханне, так ці інакш звязанае з рэйкамі і шпаламі. Усе выйсці на старонкі месцяцца ўверсе цэлага выяўлення.

„Куды я ні еду — ці ў добрым настроі,/ Ці хай у найгоршым,/ — Выходжу з вагона, каб хвілю прайсціся/ На станцыі Орша”, — піша Пятрусь Броўка ў вершы на старонцы „Чыгуначныя станцыі”.

„І саставы, здаецца, аж недзе пад Слуцкам/ У сінеючай далі згубілі ранжыр.../ Каб было ў Салігорску ні цесна, ні вузка,/ Разрастаецца станцыя ўдоўжкі і ўшыр”, — нібы адказвае яму Уладзімір Паўлаў, распавядаючы пра станцыю Калій.

Вершы пра чыгуначнікаў, што месцяцца на старонцы „Працаўнікі чыгункі” больш рамантычныя. „Сярод калін/ І скошанай травы,/ Дзе вольна пчолам/ І салодка восам,/ Жывe сабе/ Абходчык пуцявы,/ Які сябруе/ З рэйкамі і лёсам/ (...) Вось тут бы мне/ Праводзіць цягнікі/ І кожную па паху/ Ведаць зёлку./ Саліць у дзежцы/ Хрумсткія гуркі/ І цалаваць абходчыка/ На золку./ (...) Я выйшла б тут/ І засталася жыць../ Ды мой цягнік/ Не мае тут прыпынку”, — дзеліцца сваімі марамі пра „Пуцявога абходчыка” Святлана Басуматрава.

Старонка „Каханне” дазваляе акунуцца ў пачуцці, звязаныя з сустрэчамі і растаннямі. „А паветра, нібы ртуць,/ І смуга згушчаецца./ Рэйкі зблізка гудуць — / Толькі не злучаюцца”, — сумна заканчвае свой верш „Паравозныя гудкі” Сцяпан Гаўрусёў.

„Філасофскія вершы” прыцягваюць увагу да сябе незвычайнай назвай рубрыкі, але яна, зважаючы на змест твораў, удала пасуе да іх. „Рэйкі і шпалы. На гэтым шляху/ Пыл, настальгія, халодныя рукі./ Цёплыя фарбы і ціхія гукі,/ Пах адзіноты і вечнасці гул”, — піша Навум Гальпяровіч у вершы „Будкі чыгуначнай сілуэт...”.

У гэтых рэйках, шпалах, гуле вечнасці і паху адзіноты адлюстраванае і чалавечае жыццё, якое, як і агулам чыгунка, нідзе не канчаецца, але ў кожнага чалавека свой канечны прыпынак.

■ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



### Апошні рамантык шахмат

## 145 гадоў з дня нараджэння Давыда Яноўскага

Травеньскі каляндар адзначаны ўгодкамі аднаго з мацнейшых шахматыстаў свету канца XIX — пачатку XX стагоддзя Давыда Яноўскага. Далёка не ўсе ведаюць, што нарадзіўся гэты маэстра ў беларускім Ваўкавыску 25 траўня 1868 года. У 23 гады ён пакінуў радзіму і выправіўся ў Францыю.

Яноўскі вольна гаварыў на некалькіх мовах, што вельмі дапамагло яму інтэгравацца ў тагачаснае заходняе грамадства. Прыехаўшы ў Парыж маладым чалавекам, ён хутка ўразіў прыхільнікаў старажытнай гульні яркім камбінацыйным падыходам да шахмат. Выйграўшы галоўны прыз у прэстыжным „Кафэ дэ ля Рэжанс”, Яноўскі пасля выступаў практычна на ўсіх буйных шахматных спаборніцтвах свайго часу. Лепшы перыяд шахматнай творчасці прыпаў на перыяд паміж 1898 і 1906 гадамі. Вяршыняй яго кар'еры сталі два матчы за карону чэмпіёна свету, якія ён згуляў у 1909 і ў 1910 гадах супраць Эмануіла Ласкера. Яноўскі перамагаў усіх майнейшых шахматыстаў свету, але ў матчах за тытул яму забракла „халоднай галавы”. Стыль атакі, які вызнаваў гэты майстар, не прызнаваў абачлівасці, дадатковай разважлівасці і стрыманасці. Часта ён ішоў на неапраўданую рызыку і заўсёды гуляў толькі на перамогу. Той жа Ласкер так характарызаваў свайго саперніка: „Яноўскі быў вялікім шахматыстам, але пасрэдным спартоўцам і слабым псіхолагам”. Чэмпіён свету наўмысна ствараў „прэсныя” пазіцыі, усяляк „засушваў” партыі, не даючы Яноўскаму разгарнуць імправізацыю напоўніцу. Зразумела, што законы рамантык прайграў, так і не стаўшы чэмпіёнам свету.

Па ўспамінах сучаснікаў Яноўскі вылучаўся таксама неадольнай цягай да азартных гульняў. Ягоным фанатычным захапленнем былі карты, ён гуляў у брыдж і покер, і часцяком прайграваў усе заробкі, што прыносілі яму шахматы. Вядомы факт, як у 1901 годзе ён спусціў у казіно ў Монтэ-Карла ўсе свае прызавыя грошы. Такое здаралася неаднойчы.

У гісторыі шахмат Давыд Яноўскі застаўся непапраўным рамантыкам. Што датычыць „гістарычнага следу”, то ён зрабіў значны ўнёсак у развіццё дэбютнай тэорыі, пакінуў багатую шэдэўральную спадчыну. Калі ў школьныя гады аўтар гэтых радкоў захапляўся шахматамі, то разбіранне партый з удзелам Яноўскага, якія засталіся ў хрэстаматыйных зборніках, дастаўляла асаблівую асалоду.

Пасля Мангеймскага турніру 1914 года Давыд Яноўскі пераехаў у Амерыку, дзе пражыў ажно дзесяць гадоў. Спярша ў Новым Свеце ён быў трэцім па сіле шахматыстам пасля кубінца Хасэ-Раўля Капабланкі і Фрэнка Маршала, але спакваля новыя маладыя майстры сталі яго перамагаць. Часамі Яноўскі дэманстраваў ранейшы яркі стыль гульні. Клімат Нью-Йорка стаўся кепскім для здароўя маэстра, ён захварэў і ўрэшце быў змушаны вярнуцца ў Еўропу. У Францыі пражыў яшчэ два гады. Памёр у горадзе Йер, куды прыехаў для ўдзелу ў турніры.

На радзіме адзін з выдатнейшых майстроў у гісторыі шахмат не ўшанаваны ніяк. У Ваўкавыску ў час дэмакратычнай адлігі была ідэя ўшанаваць Яноўскага, нібыта быў знойдзены нават дом, дзе ён жыў. Але цяпер да гэтага няма нікому справы.

■ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**







# Запрашэнне

## Мікола Гайдук (1933-1998)

Кафедра беларускай культуры Філалагічнага аддзялення Універсітэта ў Беластоку, Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”, II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, Майстэрня фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, Рэдакцыя штомесячніка „Przegląd Prawosławny”, Рэдакцыя штомесячніка „Czasopis”, Беларускае гістарычнае таварыства

**запрашаюць на ўрачыстасці ў гонар Міколы Гайдука**

**8.06.2013 г. (субота)**

гадз. 10.00 — ад'езд з Беластока (рэдакцыя тыднёвіка „Ніва”, вул. Заменгофа, 27) у Бельск-Падляшскі

гадз. 12.00 — канферэнцыя, прысвечаная Міколу Гайдуку ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, вул. Каперніка, 4

1. Андрэй Сцепанюк — прывітанне гасцей
2. Галена Глагоўская — Мікола Гайдук — чаму заслужыў на памяць?
3. Гражына Харытанюк-Міхей — Бібліяграфія творчасці Міколы Гайдука і яго зацікаўленні беларускім фальклорам
4. Анжэліна Масальская — Калекцыя Міколы Гайдука ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы
5. Дарафей Фіёнік — Вясна ў Мікулічах 30 гадоў пазней — працяг пачатага Міколам Гайдуком
6. Славамір Іванюк — Пра педагагічную дзейнасць Міколы Гайдука
7. Яўген Вапа — Мікалай Гайдук як журналіст „Нівы”
8. Тэрэза Занеўская — У свеце паэтычных уяўленняў Міколы Гайдука
9. Анна Саковіч — Пра аўтабіяграфічную прозу Міколы Гайдука
10. Юрка Хмялеўскі — Мікола Гайдук як публіцыст і прыяцель „Czasopisa”
11. Яўген Чыквін — Супрацоўніцтва Міколы Гайдука з асяроддзем штомесячніка „Przegląd Prawosławny”
12. Ірэна Матус — Зацікаўленні Міколы Гайдука Брэсцкай уніяй

гадз. 18.00 — вечарына ўспамінаў пра Міколу Гайдука — сям'я (сястра Зінаіда, дочкі Марыя і Іаанна), вучні і настаўнікі, знаёмыя

**9.06.2013 г. (нядзеля)**

гадз. 9.00 — Святая Літургія ў Свята-Мікалаеўскай царкве ў Міхалове, пасля Літургіі паніхіда за св.п. Міколу Гайдука

гадз. 12.00 — „Успамін пра Міколу Гайдука”, Майстэрня фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове, вул. Фабрычная, 33

гадз. 15.30 — ускладанне кветак на магілу Міколы Гайдука на Праваслаўных могілках на Выгодзе ў Беластоку

8 ☞ працяг

## Надзейнае Партнёрства...

ня сродкаў толькі ў буйных, аднаразавых фестывальных мерапрыемствах, неабходны так выхад за межы буйных гарадскіх цэнтраў, як і адкрыццё гарадоў на акцыі ў рэгіёне — штодзённае, арганічнае ўкараненне ў канкрэтным месцы і супольнасці.

Што самае галоўнае, было заяўлена таксама: «Засяроджаныя на абшчыннасці, мы не можам забываць гістарычнага вопыту краін УП, якія не мелі шанцаў для вызвалення прасторы свабоды для чалавека, і тым больш маюць яны патрэбу ў культуры, якая стварае ўмовы для яе індывідуальнага развіцця. Толькі тады магчымым будзе будаўніцтва буйных праектаў супольнасці».

Сярод выклікаў, з якімі прыйдзецца сутыкнуцца на шляху да рэалізацыі культурнай праграмы УП, былі сігналізаваны: «праблема цэнтралізацыі культуры (культурныя мерапрыемствы сканцэнтраваны ў сталіцах і буйных гарадах), палітызацыя культуры (існуе небяспека залежнасці культурнай сферы ад бягучай палітыкі, але, нягледзячы на гэта, культурная дзейнасць не павінна адкідваць грамадскага і грамадзянскага ўдзелу), нізкі ўзровень культурнай кампетэнтнасці (неабходны абмен вопытам і сумесныя праграмы выхавання новых лідараў інтэграцыйных і культурных дзеянняў, аснаваных на пабудове адкрытага грамадства), абмінанне сучаснага мастацтва за кошт пасіўнага захавання спадчыны, якая ў многіх краінах УП з'яўляецца прыярытэтам культурнай палітыкі, адсутнасць кампетэнтных дыягназаў сітуацыі ў краінах УП (стварэння сёння экспертызы на нізкім узроўні ў негатыўны спосаб уплываюць на кшталт стратэгіі, заканадаўства і праграмы фінансавання). Гэтыя праблемы будуць абмяркоўвацца на другім Кангрэсе культуры Усходняга партнёрства восенню.

## Адгаданка

1. хітрун, махляр, 2. непаваротная спачатку шахматная фігура, якая з ходам гульні можа стаць незвычайна баявітай, 3. знаўца стратэгіі, 4. суднаходства паміж партамі аднаго мора або адной дзяржавы, 5. змена напрамку... ад варот, 6. невялікае паглыбленне, ямка, 7. прастора з акрэсленымі каардынатамі, 8. сярэднеазіяцкі ўладар, 9. лоб, 10. жыла ў раю і не мела свякрухі, 11. адчуванне пакуты, 12. след на скуры ад раны, 13. вялікі гармонік, 14. бацька паніча, 15. прыбудова перад уваходам у хату, 16. тайна, 17. мяккая трубачка для зубной пасты, 18. мяч у варотах, 19. форменнае паліто, 20. хапанне здабычы, 21. касіў канюшыну, 22. вакальны ансамбль.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | 2 | | | | 3 |
| | 4 | | | | | | | | | 5 | | |
| | | | 6 | | | | | | | | | |
| | 7 | | | | | | 8 | | | | | |
| 9 | | | 10 | 11 | | | | 12 | | | | 13 |
| | | | | | | | 14 | | | | | 15 |
| 16 | | | | | 17 | | 18 | | | 19 | | |
| 20 | | | | | 21 | | | | 22 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Адам, вітка, вусач, вярста, Данута, дата, жар, Кунавін, Ліён, месяц, мода, музыка, ода, сапрана, спеў, фея, цана.

Рашэнне: **Сапраўдная музычная фанатка радасна вітае мужа калі ён на досвітку вяртаецца дадому са спевам**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

## 02.06 — 08.06

**(22.03. — 20.04.)** 5-9.06. набярэшся адвагі і смеласці, справішся з бoльшым лікам праблем. Ад 3.06. да 27.06. Венера спрыяе асцярожнасці і развазе пры фінансавых справах. Варта паддацца каханню! Цешся хвілінай. З 6 (да 10.06.) лёгка будзе табе памыліцца; не бярыся за тое, у чым не вельмі разбіраешся.

**(21.04. — 21.05.)** Да 10.06. правер гармоны, асабліва шчытавідкі. 2-4.06. нават флірт можа аказацца завялікім стрэсам (можаш закахацца ў неадпаведную асобу). На працы пастаў на калектыўныя заняткі. 3.06. ідзі на размову з шэфам. Старайся не быць падазроным, расслабся, бо шмат страціш. Не купляй для дому бараxла.

**(22.05. — 22.06.)** Чым менш ваганняў, тым больш прыбытак. 2-5.06. — час спрыяе засяроджанню і памяркоўнасці. Маеш шанц даць рады шатлікім выклікам. Аж да 26.06. будзеш мець шмат энергіі. Шчасліва паафармляеш важныя і неадкладныя справы, будзеш чэрпаць многа радасці ад працы. Але ж 6-10.06. можа сустрэць цябе нечаканае, а нават шакіруючае здарэнне. З 6-12.06. — вялікая напруга; у пачуццях можаш стаць перад цяжкім выбарам; лепш не вырашай. У чэрвені могуць дакучаць табе не да канца вылечаныя хваробы.

**(23.06. — 23.07.)** Ад 3.06. аж да 27.06. — твой час: можаш заззяць, калі падзейнічаеш — маеш шанц шмат здабыць. Усмешкі зорак! Можаш выклікаць вялікае ўражанне на кімсьці новапазнаным. Ад 3 аж да 27.06. Венера дадасць табе красы і добрага настрою. Толькі з дыетамі цяжкавата — будзеш сабе з ахвотай дагаджаць. 6-10.06.: зайздроснікі схочуць падставіць табе нагу.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш напоўнены энергіяй (будзе цябе аж разносіць!). Не бяры ўсяго на розум, важнейшая інтуіцыя. Добры час на сустрэчы, паездкі, раманы. 2-6.06. трымайся моцна сваіх прынцыпаў. 2-9.06. маеш шанц паправіць адносіны з блізкімі. Ды на працы 6-10.06. магчымыя вострыя спрэчкі Але ж 5-9.06. можаш атрымаць вельмі карысную прапанову і абяцанне будучых прыбыткаў.

**(24.08. — 23.09.)** Дзевы сямейныя ад 7.06. павінны пазбягаць рэвалюцыі ў пары. Ад 6 да 10.06. некаторыя справы дома могуць быць пастаўлены рубам. Розум і асцярожнасць памогуць табе выбрацца з розных сітуацый. Задбай аб свае вочы. 5-9.06. нагоды для заробку будуць проста пхацца ў рукі; падумай аб сур'ёзных інвестыцыях. 6-10.06. будзеш прымушаны лічыцца з гуляючымі нячыста людзьмі. У кар'еры амаль да канца чэрвеня будзеш мець цікавыя задумы, нават рызыканцкія, якія папхнуць тваю кар'еру ўперад.

**(24.09. — 23.10.)** 1-4.06. зважай, з кім маеш дачыненне — будуць такія, што схочуць табе зашкодзіць. 5-9.06. будзеш душой кампаніі, маеш шанц рэалізаваць свае планы, будзеш цешыцца. Ды магчымыя спрэчкі дома. Ад 3.06. аж да 29.06. заззяе твой дыпламатычны талент. Фінансавая прапанова 5-9.06. вартая спакойнай развагі, ды не разлічвай на хуткі прыбытак.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш пераканацца, ці твае пачуцці вытрымаюць час. У кар'еры будзеш патрабаваць свабоды і прасторы. З 6.06. (да 10.06.) зоркі асцерагаюць перад знаёмым, які схоча зрабіць табе мядзведжую паслугу. Не траць над сабою кантролю, а ўсё складзецца як у казцы.

**(23.11. — 22.12.)** Не спадзявайся вялікіх пераломаў. Маеш аднак шанц выйсці на плюс. Мноства цікавых задум, іншыя будуць у цябе раіцца. 6-10.06. не бяры крэдытаў, не пазычай, лепш не падпісвай дамоў. Хаця 5-10.06. мілыя сустрэчы. 7-9.06. не бравурнічай, не абяцай зашмат.

**(23.12. — 20.01.)** Знакаміты час на дзейнасць. Стома табе нястрашная. Мноства задум і ідэй. 2-6.06. будзеш спрытны, інтэлігентны, старанны і апякунчы. Цудоўна ў закаханых Казярогаў, ды ў адзінокіх — цяжкавата знайсці здзяйсненне ў любові.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Вельмі будзеш увесь месяц цаніць сваю свабоду. 1-4.06. знакаміты настрой, прыліў энергіі. 2-6.06. захавай дыстанцыю і творчасць, прыйдзе ў галаву табе мноства цікавых задум (пахвалы!). З 6 (да 10.06.) хтосьці схоча выкарыстаць інфармацыі супраць цябе. Не бойся бур, спакойна дзейнічай — бераг блізка.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Будзеш натхнёны энергіяй і жыццярадаснасцю. 5-9.06. спрыяльныя нагоды лёсу. 6-10.06. не адступай, не спалохайся, каб не страціць вялікага шанцу. Ад 3 аж да 27.06. — спрыянне ў закаханні, але і паблажлівасць у адносінах да дзяцей.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Царкоўная музыка ў сучасным грамадстве

**На заканчэнне XXXII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2013”, які праходзіў у днях 22-26 мая ў Беластоку, прагучэла „Многае лета” на румынскай, украінскай і рускай мовах. Калі гаварыць пра геаграфію ўдзельнікаў, тут апярэдзілі ўсіх Расія і Украіна. На трэцім месцы апынуўся наш... Беласток!**



Беластоцкі студэнцкі ансамбль „Quattro Voce”

Ад некалькіх гадоў мы можам назіраць зацікаўленне царкоўнай музыкай у сталіцы Падляшша. Прыгожы і экуменічны жэст праявіў кафедральны хор „Carmen”, які выступіў на гала-канцэрце з творам беларускага кампазітара Аляксея Туранкова „Торжествуйте днесь”. Гэты жэст мацавала прысутнасць рымска-каталіцкага арцыбіскупа Эдварда Азароўскага. З падобным недаверам і прызнаннем я глядзела на выступленне хору Ваяводскай камендатуры Паліцыі ў Беластоку пад кіраўніцтвам Віялеты Мілкоўскай. Харысты ў мундзірах заваявалі першае месца ў катэгорыі аматарскіх свецкіх хароў. Прыгожай і нечаканай з'явай была прэзентацыя беластоцкага студэнцкага ансамбля „Quattro Voce”, які атрымаў вылучэнне ў катэгорыі прафесійных хароў. Пра ансамбль можна сказаць адно — яны праявілі глыбокае адчуванне царкоўнай музыкі. Дарэчы, гэтая прыкмета рэдка сустракаецца сярод польскіх хароў...

* * *

Адным з дасягненняў фестываляў царкоўнай музыкі з'яўляецца прамоцыя твораў і кампазітараў у свецкім грамадстве. У апошні час, можна сказаць, пайшла мода на такі жанр. Кампазіцыі, напісаныя для рэлігійных абрадаў, дзякуючы сучаснай тэхніцы, можна паслухаць у хаце ці ў дарозе. Сярод паклоннікаў царкоўнай музыкі сустрэнем прадстаўнікоў многіх прафесій і веравызнанняў, напрыклад, будыстаў, якія працуюць у карпарацыях. Распаўсюджванню жанру спрыяюць высакаякасныя аўдыёзапісы, шырока даступныя ў інтэрнэце. Я сама дзень і ноч слухаю дыск з адкрыцця фестывалю, на якім запісаны канцэрт, прысвечаны Кшыштафу Пэндэрэцкаму. Менавіта царкоўная музыка наклікае асацыяцыі з традыцыяй. Самай вялікай каштоўнасцю гайнаўскага фестывалю з'яўлецца адкрыццё царкоўнай музыкі на сучасныя плыні ў музыцы. Найлепшым доказам гэтаму згаданы дыск (дадатковы прадукт фестывалю) — творы Кшыштафу Пэндэрэцкаму прысвяцілі сучасныя кампазітары, між іншым, Лэся Дычко, Віктар Сцяпурка (абое з Украіны), Анатолій Кісялёў (Расія) Запра Запраў (Македонія) Тэадор Згурыяну (Малдавія) Рамуальд Твардоўскі (Польшча), Ірына Дзянісава (Беларусь)...

Сучасная царкоўная музыка — з'ява незвычайная. Яна сама па сабе прадстаўляе непарыўны паток музычнай традыцыі. Тут побач старажытных напеваў і гукаў сустрэнем мелодыі, характэрныя для фільмавай музыкі.

* * *


Акадэмічны камерны хор Дзяржаўнай філармоніі з Кастрамы


http://www.festiwal-hajnowka.pl

„Пасія па Мацвею” мітрапаліта Іларыёна (Алфеева) напісана для хору і аркестра

XXXII MIĘDZYNARODOWY FESTIWAL MUZYKI CERKIEWNEJ w Białymstoku

Fundacja "Muzyka Cerkiewna" zaprasza na

pierwsze w Polsce wykonanie

„PASJI WEDŁUG ŚW. MATEUSZA”

(„Страсти по Матфею“)

Metropolity Hilariona (Alfiejewa)

wykonawcy

Soliści
Chór Kameralny
Orkiestra "Grodnienskiej Kapelly"
Grodno (Białoruś)
dyryguje: Władimir Bormotow

25.05.2013 r. godz. 20.00

Opera i Filharmonia Podlaska Białystok, ul. Podleśna 2

WSTĘP WOLNY

Адраджэнне царкоўнай музыкі спрыяе найперш рэлігійным абрадам, жывым на Падляшшы. Самы вялікі энтузіязм для гэтага жанру сустрэнем сярод... дзяцей. Таксама ў час XXXII Фествалю дзіцячыя і моладзевыя хары праявілі сваю прысутнасць і майстэрства.

Час назваць пераможцаў сёлетняга фестывалю. Першую ўзнагароду ў катэгорыі прафесійных хароў выспеваў Акадэмічны камерны хор Дзяржаўнай філармоніі з Кастрамы ў Расіі (дырыжор Аляксей Мельнікаў), першае месца ў катэгорыі дзіцячамоладзевых хароў — народная капэла „Зорінка” з Цярнопаля (дырыжоры Ісідор і Анджэла Доскачы), хлапечы хор Аддзялення практыкі Нацыянальнай музычнай акадэміі Украіны імя Пятра Чайкоўскага з Кіева (дырыжор Ала Шайко), першае месца ў катэгорыі хароў музычных школ: хор „Сонечны Струм” з Мікалаева ва Украіне (дырыжор Юры Чарапухін), першае месца ў катэгорыі свецкіх хароў: хор Ваяводскай камендатуры Паліцыі ў Беластоку (дырыжор Віялета Мілкоўская), ды першае месца ў катэгорыі парафіяльных хароў заваяваў калектыў салістаў „Rostov-Don Art Music” з Растова пад кіраўніцтвам Міхаіла Акіменкі і хор Сабора св. апостала Андрэя з Калінінграда (дырыжор Аляксей Радзіёнаў).

А як былі ацэнены беларусы? Сярод лаўрэатаў журы назначыла другое месца хору Музычнай школы „Санет” у Гродне (дырыжор Жана Цабенка). Сярод вылучаных дырыжораў была прыкмечана таксама Людміла Пясецкая, апякунка камернага жаночага хору Музычнага каледжу з Ліды. Рэактываваны хор „Унія” з Мінска, які ў сваёй праграме мае творы беларускіх кампазітараў (таксама на беларускай мове) не прыехаў...

Як вядома, узровень і міжнародны абсяг фестывалю вызначае найперш састаў журы. У гэтым годзе выканаўцаў ацэньвалі вядомыя кампазітары і музыканты: Рамуальд Твардоўскі (старшыня), Генадзь Дзмітрук, Лэся Дычко, Анатолій Кісялёў, Бажэна Савіцкая, а. Юрый Шурбак, Запра Запраў.

На канец міжнароднае журы, згодна з традыцыяй, падзякавала дырэктару фестывалю Міколу Бушку і Ірэне Парфянюк, якая ўзяла на сябе абавязкі арганізацыйнага бюро. Калі ідзе пра медыйны пераказ аб падзеі, тут з'явіўся рэзкі дысананс, выкліканы прэм'ерай „Пасіі па Мацвею” аўтарства мітрапаліта Іларыёна. Аб'ява пра канцэрт з'явілася нечакана ў час самога фестывалю. Цягам апошніх месяцаў ноты гэтага твора ў Беластоку загінулі ў незразумелых абставінах.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960